


# Наша Слова







Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 30 (294) | 25 ліпеня 1996 г. | Кошт -- 1000 рублёў


## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **27 ліпеня — дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь.**

○ **У Вышэйшых навучальных установах нашай краіны ідуць уступныя экзамены.** У Менскім педагагічным універсітэце імя Максіма Танка больш за 80% абітурыентаў, якія мелі магчымасць выбару ўступнага экзамену, выбралі экзамен па беларускай мове і літаратуры. На тры спецыяльнасці, дзе гэты экзамен з'яўляецца асноўным, конкурс склаў ад 3 да 4,1 чалавека на месца ( у мінулым годзе — 2,6-3,8). На 120 месцаў беларускага аддзялення філфака БДУ прэтэндуюць 257 чалавек. У Лінгвістычным універсітэце на спецыяльнасцях замежная і беларуская мовы конкурс да 3,5 чалавек на месца. Так што Беларусь яшчэ жыве, і маладое пакаленне выбірае беларушчыну.

○ ***Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка наведаў некаторыя калгасныя гаспадаркі Віцебскай вобласці.*** *Пад час сустрэч з калгаснікамі з вуснаў Прэзідэнта прагучалі такія словы: "Калі згубім вёску, згубім нацыю". І гэта так, бо амаль усе класікі беларускай літаратуры, многія славутыя вучоныя — выхадцы з вёсак. І ў вёсках яшчэ жыве чыстая беларуская мова, пра захаванне якой трэба думаць кіраўнікам нашай дзяржавы не менш, чым пра ўраджай на палетках. Згубім беларускасць у вёсках, згубім нацыю! І сумна ад гэтых лічбаў: за апошнія 5 гадоў спынілі сваё існаванне 865 масавых бібліятэк, 977 клубных устаноў, 3136 кінаўстановак.*

○ **За апошнія пяць гадоў** у нашай краіне ў 2,5 раза зменшылася колькасць работнікаў навуковых арганізацый. Няўжо ад навукоўцаў не было ніякай карысці?

○ ***У друку з'явілася інфармацыя**, што ўлады Севастопаля звярнуліся да ўрада Беларусі з прапановай адкрыць у іх горадзе прадстаўніцтва Рэспублікі Беларусь. На першым этапе супрацоўніцтва прапануецца стварыць кампактнае марское параходства. Дарэчы, у Севастопалі сёння жыве каля 65 тысяч беларусаў. Пакуль што ўрад нашай краіны ўладам Севастопаля не даў ніякага адказу. Думае?*

○ **У ЗША ў Атланце 20 ліпеня адкрыліся 26-я Алімпійскія гульні.** Нашу краіну прадстаўляюць каля 100 чалавек. На мінулых Алімпійскіх гульнях беларускія спартсмены заваявалі 9 залатых, 4 сярэбраныя і 2 бронзавыя медалі. З якімі ўзнагародамі цяпер вернуцца на Радзіму нашыя землякі?

○ ***Першым магістрам эканамічных навук выпуску 1996 года стаў** на факультэце знешняга гандлю Гданьскага універсітэта ў Польшчы студэнт з Беларусі Аляксандр Мароз. А зямляк Аляксандра Іван Гайдэль — адзіны прадстаўнік Беларусі на гістарычным факультэце — стаў магістрам гістарычных навук. Усяго ў Гданьскім універсітэце сёння вучыцца каля 50 беларусаў.*

○ **У Абчаку, прыгарадзе Менска, адбылася афіцыйная цырымонія** пачатку будаўніцтва завода кампаніяй "Форд Юніён". Практычная рэалізацыя праекта даручана арэнднаму прадпрыемству "Менскрамбуд". Кошт першага этапа будаўніцтва складае 3,4 мільёна долараў. Мяркуецца, што ў чэрвені 1997 года будуць сабраныя першыя аўтамабілі.

*Да 200-годдзя Яна Чачота*

## Помнік Яну з Мышы на радзіме




Помнік Яну Чачоту ў Новай Мышы.
**Здымак М. КАШКО.**

Беларускі вучоны і паэт Алег Лойка адзначаў пра Яна Чачота, што ён "...нарадзіўся 7 ліпеня 1796 г. у засценку Малюшычы Навагрудскага павета. Каля 1806 г. сям'я пераехала ў ваколіцы Новай Мышы ля Баранавіч. Над маляўнічай Мышанкай і рос будучы паэт, што любіў падпісвацца "Ян з Мышы ".

У баладзе "Мышанка" Ян Чачот усхвалявана пісаў:

*Мышанка мая ! За ўсе краскі, за тое,*
*Што жыў тут, табою прыгрэты,*
*За светлае ранне сваё залатое —*
*Прымі ж ты вянок мой во гэты.*

Удзячныя нашыя суграмадзяне, адзначаючы вялікі ўклад свайго слыннага паэта і этнографа, першымі на Берасцейшчыне і другімі на Беларусі ўсталявалі яму помнік. Гэтыя ўрачыстасці адбыліся ў мястэчку Новая Мыш, у самым прыгожым месцы — парку, побач з Прэабражэнскімі касцёлам і царквой. Нездарма Ян Чачот пісаў: "Рэлігія не толькі аб'ядноўвае людзей з творцам, яна не толькі ўцеха і вышэйшая асалода для сэрцаў, знясіленых пад цяжарам няшчасцяў і чалавечых заган, але і шчыт супраць варожых грамадству яго членаў, яна — краевугольны камень, на якім грунтуюцца мараль і тленнае шчасце ".

У сваёй прамове "Пра будучае прызначэнне таварыства філаматаў,

(Заканчэнне на с.8.)

## Сляды нянавісці ў святыні



Курапаты. Лета 1996 г. Павалены крыж...

Амаль 60 гадоў назад тут пачалося вынішчэнне так званых "ворагаў народа". У 1988 годзе гэта стала набыткам публічнасці. Пракамуністычныя колы намагаліся даказаць, што расстрэльвалі людзей фашысты ў часе вайны. Але пракуратура яшчэ раз пацвердзіла афіцыйна заяўленае раней: забівалі зняволеных бальшавіцкія нелюдзі.

Курапаты... Месца народнай бяды. Святое. Ды што значыць святое для таго, хто вырас дзікім манкуртам. Красамоўнае сведчанне вынікаў русіфікацыі — гэтае выразанае на дрэве прызнанне (у каханні?) да нейкай Насці. Эх, Насця, Насця... Шкада цябе, дзяўчынка. Што ж, глядзі і запамінай. Паглядзіце і Вы, добрыя людзі, на сляды дзікунскага манкурцтва. Божа, дапамагі грэшнікам цяжкія іх правіны!

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**
**Фота Уладзіміра КАРМІЛКІНА.**

*Меркаванні*

## ТБМ: якое патрэбна рэфармаванне

Неабходнасць абмеркавання лёсу ТБМ у сучасных умовах стала неадкладнай патрэбнасцю. Таму артыкул У.Панады "ТБМ патрэбна рэфармаванне" ("Наша слова", № 20, 1996 г.) выклікаў адпаведную цікавасць. Нельга не згадзіцца з агульнымі крытычнымі заўвагамі ў адрас ТБМ. Аднак многае там не бясспрэчна, хоць і дае падставы прызнаць рэальнасць пагрозы паступовага знікнення ТБМ як дзейснай арганізацыі, "першаступенная задача якой — адраджэнне беларускай мовы ў дзяржаўным, грамадскім і духоўным жыцці народа, пашырэнне яе ўжытку ва ўсіх сферах жыцця Рэспублікі Беларусь, усебаковае яе развіццё, вяртанне і захаванне яе чысціні і самабытнасці" (са Статута ТБМ). Карані той пагрозы не толькі ў выніках гістарычных, для Беларусі адмоўных працэсаў, але і ў хваравітым супраціўленні беларускай мове з боку сучасных вярхоўных уладаў нашай краіны.

На Беларусь ціснулі з усіх бакоў у імкненні запаланіць яе і выкарыстоўваць у сваіх інтарэсах. Усё гэта вядома з гісторыі. Варта аднак нагадаць пра нацыянальна-беларускі ўздым, звязаны з утварэннем у сакавіку 1918 года Беларускай Народнай Рэспублікі. Савецкая Расія тады пайшла на злачынствы: беларускія носьбіты ідэі Адраджэння краю аб'яўляліся ворагамі пралетарыяту і ўвогуле якогасьці неіснуючага народа і знішчаліся. Тое ж рабілася з іх нашчадкамі.

Перамяшчэнне ў нашы гарады велізарнай масы прадстаўнікоў "вялікага рускага народа" для кіраўніцтва намі — недарэкамі таксама зрабілі сваю злачынную справу: на пачатак стварэння ТБМ у Менску не было ніводнага класа, дзе б дзеці вучыліся і выхоўваліся на беларускай мове. І гэта яшчэ не ўсё. Ствараліся ўмовы, каб наша вёска сама адмовілася ад сваёй спрадвечнай ролі носьбіта роднай мовы. Прычым па цынізме гэта сістэма была на недасягальнай вышыні: для забаў "социалистических по содержанию и национальных по форме" яна пакідала маленькія "очаги" — некаторыя тэатры, некалькі газет, гурткі мастацкай самадзейнасці. Быў пэўны дазвол і пісьменнікам. У астатнім жа карыстанне беларускай мовай лічылася амаль што ганебным. Многія адраджэнцы жыццём заплацілі за сваю непахіснасць у служэнні справе беларускасці. Сярод іх вечнымі маякамі духоўнага беларускага святла будуць імёны Максіма Гарэцкага, Андрэя Мрыя (Андрэя Шашалевіча), Уладзіслава Галубка і іншых ахвярнікаў.

У звязку са сказаным у якойсці меры зневажальна ўспрымаюцца выдзеленыя У.Панадам тры групы насельніцтва, што карысталіся беларускай мовай напярэдадні стварэння ТБМ. Усе яны якіясьці другасныя, непаўнацэнныя: "далёкія ад палітычных ці нацыянальных праблем"; ці тыя, "паходжанні і перакананні якіх не дазвалялі ім узняцца па прыступках сацыяльнай лесвіцы". На самай жа справе свядомая беларускамоўнасць тады была ўласціва ў асноўным прадстаўнікам сапраўднай нацыянальнай эліты. Флюгерных прыстасаванцаў мелася нямнога. І не яны стваралі беларускую культуру.

**Дык што ж такое ТБМ і хто яго сябры?**

Такое пытанне ўзнікла не выпадкова. Калі ўважліва пачытаць і прааналізаваць напісанае У. Панадам, то атрымаецца самая адмоўная характарыстыка гэтай арганізацыі. "ТБМ, — піша аўтар, —

(Заканчэнне на с.2.)

*З рэдакцыйнай пошты*

# Самы прыгожы куток у школе

Мы, вучні Вархоўскай базавай школы Гарадоцкага раёна Віцебскай вобласці, разам са сваёй настаўніцай роднай мовы і літаратуры Тамарай Іванаўнай Анісенка вырашалі напісаць табе, роднае "Наша слова", пра тое, як мы жывём і вучымся ў нашай вясковай школе.

У нас ужо стала традыцыяй праводзіць Тыдні па прадметах і беларускай культуры. У мінулым навучальным годзе мы пачалі вывучаць беларускі народны каляндар. Шмат даведаліся пра звычаі, традыцыі і святы, якія прыпадаюць на пэўны перыяд. Правялі некалькі цікавых мерапрыемстваў — з конкурсамі, спевамі, дэкламацыяй вершаў з творчасці выдатных беларускіх паэтаў.

Усе мерапрыемствы ў нас праводзіліся ў нашым любімым кабінеце беларускай мовы і літаратуры. Гэта самы прыгожы кабінет у школе, аформлены рукамі вучняў з дапамогай Тамары Іванаўны. У ім ёсць такія стэнды, як "Дабраслаўлёны родны дом" (раней ён называўся "Беларусь — мая Радзіма"), "Родны край — прытулак загадак і цудаў" (па беларускім народным календары) і "Сёння на ўроку". У кабінеце красуюцца і дапамагаюць нам ісці ў краіну ведаў нашы яркія зоркі ў літаратуры Янка Купала, Максім Багдановіч, Якуб Колас, а таксама славуты на ўвесь свет наш першадрукар і асветнік Францішак Скарына. У шафах размясціліся ілюстраваныя кнігі і разнастайныя слоўнікі і іншыя матэрыялы ў папках, якія мы выкарыстоўваем на ўроках, а таксама падшыўкі беларускіх газет і часопісаў. На самым жа відным месцы — "Наша слова".

Лічым, што ў мінулым годзе мы хораша правялі "Калядны тыдзень" і заклалі добрую традыцыю. Колькі ўмельства, фантазіі і вясёлых выдумак было на гэтым святце, а самае галоўнае — гучала беларуская, наша родная мова. Каб жа заўсёды так! А то паўсюды чуем недарэчную "трасянку" і дзівімся — няўжо наш беларускі народ такі яшчэ цёмны, што ў большасці сваёй прагаласаваў за двухмоўе?! Тым больш трэба ведаць народныя звычаі, традыцыі, святы і прысвяткі, бо з усім гэтым так моцна звязана жыццё народа.

Так, наша спадчына вельмі і вельмі багатая. Мы гэта ўжо зразумелі, дык хацелася б, каб зразумелі вучні і настаўнікі ўсіх беларускіх школ.

З пачаткам новага навучальнага года мы абавязкова прадоўжым вывучаць беларускі народны каляндар і ўжо дасканала вывучым усё, што звязана з веснавым і летнімі цыкламі народных святаў. І запрашаем усіх: калі ласка, давайце сябраваць, перапісвацца.

**Вера Шкрэдава**
**Аляксей Косцераў,**
**Алена Маражанава —**
**вучні Вархоўскай БШ**
**Гарадоцкага р-на Віцебскай вобл.**

*Меркаванні*

# ТБМ: якое патрэбна рэфармаванне

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

створана беларускай савецкай элітай". Але ж тады іншага проста і быць не магло. І вельмі добра, што сярод высокіх партыйных і савецкіх кіраўнікоў Беларусі аказаліся людзі тыпу Георгія Таразевіча і Пятра Краўчанкі, якія разумелі неабходнасць захавання беларускай нацыі і яе мовы.

"Яго сябрамі стала мноства інтэлігентаў-маргіналаў". Значыць — людзей другарадных, амаль што непаўнацэнных? Бо marginalis (лац.) — гэта тое, што знаходзіцца на краі. Сапраўды ж прыхільнікамі ТБМ з самага пачатку сталі свядомыя і энергічныя людзі, якія добра разумелі неабходнасць уратавання атрыбутаў беларускасці.

"Таварыства прамаўлялі (?) людзі, для якіх мова была сродкам альбо выканання службовых абавязкаў, альбо павышэння грамадскага статуса"... Ці значыць гэта, што членамі ТБМ былі ці прыстасаванцы, ці нейкія кар'ерысты, ад якіх і чакаць нічога добрага нельга было? Не, у сапраўднасці ў большасці выпадкаў мелася адваротнае. "У пераважнай большасці яны (сябры ТБМ. — **Аўт.**) з'яўляліся дзяржаўнымі службоўцамі". Гэта, вядома, загана. Але ж на той час усе працоўныя былі дзяржаўнымі службоўцамі. Бо за прыватную дзейнасць чакала толькі турма — таксама дзяржаўная ўстанова. Апроч таго, мэтай ТБМ было мець як мага больш прыхільнікаў з любой сферы станоўчай дзейнасці.

"ТБМ было "часткай дзяржаўнай машыны, якая здзяйсняла ўрадавую праграму пашырэння ўжытку беларускай мовы", што, відаць, таксама трэба лічыць вялікай крамолай. А, між іншым, у любой, хоць колькі-небудзь цывілізаванай краіне клопат аб мове свайго народа, як ягонай сукупнай душы, як ахоўніцы галоўных духоўных набыткаў і захавальніцы асноўных канцэпцый суаднosін з прыродай і грамадствам, — адна з самых галоўных задач дзяржавы. Таму ва ўсіх вядучых краінах (Англіі, ЗША, Францыі, Японіі, Кітаі, нават В'етнаме і інш.) маюцца дзейсныя законы па абароне і развіцці нацыянальнай мовы. Таварыствы ж тыпу нашага ТБМ з'яўляюцца дапаможнымі ініцыятыўна-думкавымі арганізацыямі, што на аснове сукупнага розуму нацыі дапамагаюць дзяржаве (а праз яе — народу) у духоўна-моўных намаганнях. У. Панада ж хоча аддзяліць ТБМ ад дзяржавы, як камуністы гэта зрабілі з царквой. Пры гэтым не заўважае, што 10 заснавальнікаў ТБМ (ад Саюза пісьменнікаў да нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі) таму практычна нічога і не робяць для ТБМ, не жывуць яго клопатамі па большай частцы толькі таму, што прынцыпова існуюць у якасці структур дзяржавы, вярхоўны ўлады якой амаль што вядуць вайну з мовай сваёй нацыі. У выніку ўсе ў разгубленасці. Бо свет не бачыў яшчэ такога дзікунства, каб "за беларускую мову — дубінкай па галаве"("Наша слова", № 20, 1996 г.). На думку У. Панады, "Таварыства не здолела супрацьстаяць", "не зразумела", "за чатыры гады не стварыла ні дзейснай структуры, ні фінансавай базы, ні сеткі функцыянераў", "абапіралася на прадстаўнікоў старой ці новай нацыянальнай эліты". Атрымліваецца, быццам бы Таварыства павінна было ў сваёй дзейнасці арыентавацца не на лепшую частку народа: мець пры сабе нейкія прыбытковыя прадпрыемствы, арыентавацца не на шчырых прыхільнікаў, а на якіхсьці функцыянераў; стварыць жорсткую структуру дзейнасці, супраць якой выступае сам жа У. Панада. Толькі забыўся ён пры гэтым, што ў Рэспубліканскай Радзе ТБМ усяго тры штатных супрацоўнікі і мэта ТБМ — далёкая ад звычайнага базарнага прадпрымальніцтва.

**Што ж трэба рэфармаваць у ТБМ?**

Недахопы ў рабоце ТБМ, вядома, ёсць. Мною, напрыклад, яны адзначаліся неаднойчы ў "Нашым слове" (№№ 14 і 34 за 1991 г.; №№ 1 і 13 за 1992 г. і інш.). Яны вядомыя. Таму выкажу толькі прапановы, сфармуляваныя наступным чынам.

**Перш-наперш дабіцца прызнання, што задачы Таварыства адносяцца да самых галоўных агульнадзяржаўных праблем. Адпаведна — вышэй ў Вярхоўны Савет з хадайніцтвам, каб ён прыняў рашэнне фінансаваць ТБМ са сваіх сродкаў як арганізацыю агульнанароднага прызначэння.**

Далей неабходна пашырана канкрэтызаваць мэты ТБМ, сфармуляваўшы іх прыкладна так:

**— Аказанне дзяржаве навукова-метадычнай, культурна-асветніцкай і арганізацыйна-стваральнай дапамогі па вяртанні беларускай мовы народу, садзейнічанне яе развіццю і ўплыву на культуру;**

**— Яшчэ больш рашуча ўздзейнічаць на выхаванне ў грамадзян Беларусі сродкамі беларускай мовы пачуцця нацыянальнай самапавагі, фармаванне сукупнай душы народа і развіццё беларускасці наогул.**

У сувязі з пашырэннем і паглыбленнем мэтавых функцый ТБМ неабходна вывучыць прапанову аб яго перайменаванні ў Таварыства беларускай мовы і культуры (ТБМіК) альбо ў Таварыства беларускай мовы і духоўнасці (ТБМіД).

Добра было б для рэалізацыі мэтаў ТБМ павялічыць аб'ём газеты "Наша слова".

Прапанаваць дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі, як сваёй заснавальніцы, выдзяляць хоць бы адзін раз у месяц эфірны час на тэле- і радыёперадачы з мэтавым прызначэннем ТБМ.

Прасіць Міністэрства культуры, калектывы тэатра імя Я. Купалы, Інстытута літаратуры АН Беларусі, іншых заснавальнікаў і магчымых спонсараў аказаць дапамогу ТБМ у арганізацыі пры ім Клубаў беларускасці як культурна-асветніцкіх цэнтраў. Падтрымліваць стварэнне такіх жа клубаў пры вышэйшых і сярэдніх навучальных установах, пры школах і розных іншых арганізацыях, каб больш і лепш гучала наша беларускае слова, павялічваўся яе ўплыў на жыццё грамадства.

І апошняе.

Кожны пункт прыведзеных пажаданняў патрабуе асобнай размовы. Выказваю спадзяванне, што і іншыя актывісты выкажуць на старонках "Нашага слова" свае меркаванні пра лёс ТБМ.

У заключэнні адзначу, што, безумоўна, У. Панада меў добрыя мэты пры напісанні артыкула. Але я аналізаваў не ягоныя намеры, а выказанае ім на паперы.

**Аляксей САЛАМОНАЎ,**
**доктар тэхнічных навук,**
**прафесар,**
**загадчык універсітэта беларускай мовы, гісторыі і культуры пры БДТУ.**

# Нацыянальная школа — база нармальнага існавання народа і дзяржавы

*"Наша слова" ўжо паведамляла аб стварэнні новай краёвай нацыянальнай арганізацыі — Таварыства беларускай школы. Пра яе дзейнасць нашаму карэспандэнту расказаў віцэ-прэзідэнт ТБШ Аляксандр Сядзяка.*

*На пачатку — кароткія звесткі пра яго. Узрост — 38 гадоў, карэнны менчук. З залатым медалём скончыў сярэднюю школу, потым — фізічны факультэт БДУ. Працаваў у Акадэміі навук Беларусі. Па сканчэнні вайсковай службы працаваў настаўнікам. Цяпер — дырэктар менскай СШ № 2.*

**— Чаму Вы працуеце ў ТБШ?**

— У свеце існуе каля дзвюх соцень краін. Кожная з іх сутыкалася з праблемамі пабудовы свабоднага, цывілізаванага грамадства. Іх досвед вучыць нас: адным з чыннікаў пабудовы такога грамадства ёсць захаванне мовы і культуры нацыі, якая стала дзяржаўнай.

Мне на ўласныя вочы давялося бачыць узаемны ўплыў дзяржаўнай палітыкі і нацыянальнай культуры ў краінах замежжа. У 80-х гадах я вучыўся ў Маскве на курсах UNESCO, вывучаў там французскую мову, каб потым мець магчымасць працаваць настаўнікам у Алжыры — былой французскай калоніі, у якой афіцыйнай была на той час мова колішняй метраполіі. Але, яшчэ не скончыўшы курсаў, я даведаўся, што ў Алжыр не паеду: у якасці дзяржаўнай там была зацверджана мова карэннага насельніцтва — арабская, і на яе пераведзена выкладанне ў школах. Праз некалькі гадоў я паехаў у Танзанію, дзе працаваў у школе, выкладаючы фізіку на англійскай мове. Але праз год, у 1991-м, дзяржаўнай моваю ў краіне стала суахілі. Бо народ, пачаўшы будаваць сваю дзяржаву і зразумеўшы, што такое свабода і незалежнасць, вырашыў: падмуркам нацыянальнай дзяржаўнасці з'яўляецца нацыянальная культура, а значыць, і мова. Выкладанне ў школах было пераведзена на суахілі дзеля таго, каб новае пакаленне танзанійцаў вырасла грамадзянамі сваёй краіны.

Мая праца ў Таварыстве беларускай школы — гэта плён атрыманага раней дасведчання: існаванне нацыянальнай школы — база нармальнага існавання нацыі ў сваёй дзяржаве.

**— Але ж ТБШ — не дзяржаўная арганізацыя?**

— Жыхарамі колішняй Заходняй Беларусі, калі тая ўваходзіла ў склад Польшчы, таксама было створана грамадскае аб'яднанне — ТБШ. Бо яны жылі ва ўмовах дамінацыі іншай, небеларускай культуры, ва ўмовах асіміляцыі. Разумеючы пагрозу будучыні свайго народа, беларуская інтэлігенцыя на чале з Браніславам Тарашкевічам стварыла легальна дзеючае ТБШ дзеля пашырэння беларускага школьніцтва і яго падтрымкі. Гэтая арганізацыя праіснавала з1921 па 1937 год і зрабіла вельмі шмат. Тое, што сёння на захадзе нашага краю жывуць беларусы не толькі "пашпартныя", але і тыя, што маюць уласна беларускія менталітэт, светапогляд і культуру — заслуга таго Таварыства. Іх захавала беларуская школа.

Сёння спатрэбілася абнаўленне ТБШ у яго першасным выглядзе менавіта грамадскай арганізацыі. Бо нацыянальная эліта бачыць пагрозу існавання народа не звонку, а знутры, якая паходзіць менавіта ад дзяржавы.

**— Дзяржавы?**

— Носьбіты гэтай пагрозы — людзі духоўна скалечаныя таталітарным рэжымам. "Ваша культура і мова не заменяць нам хлеба", — кажуць яны. Але ж аўтаслесар у Бельгіі, дзе я быў нядаўна, мае і хлеб, і каўбасу, зарабляючы нашмат больш за беларускага. Бо ён — не "тутэйшы", бо гэтую адносна маладую краіну стварылі людзі, якія памяталі пра сваю нацыянальную адметнасць, якія ведалі, куды ідуць.

**— А куды ідзе ТБШ?**

— Мы разумеем, што пакаленне, якое сёння стаіць пры ўладзе, не адолее вырашыць усіх праблем нашага краю. Яны застануцца на долю новага пакалення людзей, што будуць адчуваць сябе грамадзянамі Беларусі і не змарнуюць час на спрэчкі, якую яшчэ мову зрабіць дзяржаўнай ці чыноўнікаў якой яшчэ краіны пусціць на нашыя мытні. Гэта будзе нармальнае пакаленне, якое ў сваіх рашэннях будзе карыстацца выключна нацыянальнымі інтарэсамі і пабудуе нармальную, цывілізаваную краіну.

Гэтае (мае словы тычацца і расійскамоўных грамадзян) пакаленне павінна выхаваць беларуская па духу школа. Але пагроза яе існаванню зрабіла надзённым пытанне кансалідацыі здаровых сіл дзеля таго, каб захаваць набытае за апошнія гады пабудовы нацыянальнай сістэмы адукацыі.

**— Якая галоўная праблема стаіць перад вашай арганізацыяй?**

— Сёння мы змушаныя гаварыць не пра пашырэнне сферы ўплыву, а пра захаванне створаных раней беларускіх школ, многія з якіх цяпер гвалтоўна пераводзяцца на расійскую мову навучання. Найбольш мяне засмучае тое, што найчасцей ініцыятарамі гэтага становяцца самі дырэктары школ — дзяржаўныя чыноўнікі, якія, згодна з законамі аб мове і аб адукацыі, павінны выступаць у абарону нацыянальнай школы.

Як гэта адбываецца? На бацькоўскі сход прыходзіць дырэктар альбо класны кіраўнік і заяўляе: пасля рэферэндуму можна выбіраць мову навучання, давайце параімся, якой мовай выкладаць далей. Але ж беларускія класы ў школах існуюць ужо чатыры гады — дзеці, якія з першага класа вучыліся па-беларуску, перайшлі ў пяты клас! Зноў пачынаюцца сваркі і ганебныя спрэчкі: хто за змену мовы, хто супраць. Але ж дзеці, якія сёлета пойдуць у пяты клас, скончаць школу ў дзяржаве, якой будуць кіраваць не тыя, што цяпер, людзі, у якой будуць іншыя законы і іншая моўная і нацыянальная палітыка! Але пачынаецца галасаванне, вынікам якога найчасцей становіцца перавод класа на расійскую мову навучання. Беларускамоўныя вучні і іх бацькі аказваюцца меншасцю, інтарэсы якой не ўлічваюцца. Далёка не ўсе з іх ведаюць, як абараніць свае правы. А ігнараванне законных правоў людзей — гэта просты шлях да грамадзянскага канфлікту.

**— ТБШ збіраецца дапамагаць гэтым людзям?**

— Канешне. Большасць з іх чакае абароны сваіх правоў ад праваахоўных органаў. Але стала відавочным: на падтрымку дзяржавы, якая сама парушае правы людзей, разлічваць не варта. Трэба дзейнічаць самім, і арганізавана. І гэткім арганізацыйным цэнтрам павінна стаць ТБШ. Мы ўжо распрацавалі рэкамендацыі бацькам вучняў беларускіх школ, моўны статус якіх змяняецца насуперак іхняму жаданню. Частка гэтых рэкамендацый ужо была надрукавана ў вашай газеце. Мы збіраемся публікаваць у друку інфармацыю аб парушэнні грамадзянскіх правоў у сферы адукацыі, нарэшце, стварыць збор сведчанняў людзей, дзеці якіх у школе адчулі этнічную няроўнасць. З гэтымі матэрыяламі мы маем намер звяртацца ў праваахоўныя структуры, дзяржаўныя і наддзяржаўныя, як у краі, так і за мяжой.

**— Наколькі шырокі абсяг дзеяння ТБШ?**

— Амаль ва ўсіх раёнах існуюць суполкі ТБШ. У іх працуюць нашыя актывісты, якія маюць інфармацыю аб стане спраў на месцах і падаюць яе ў цэнтр. Думаю, што сабраныя намі звесткі адлюструюць стан беларускага школьніцтва больш дакладна, чым статыстыка Міністэрства адукацыі, бо збіраюцца яны больш апературна.

**— Але ці можа дзейнасць Таварыства беларускай школы паўплываць на пазіцыю большасці, якую складаюць людзі савецкага светапогляду?**

— Ад савецкага часу мы захавалі прынцып "дэмакратычнага цэнтралізму" — прыярытэту большасці над меншасцю. Але ўсяму свету вядома: ключ да грамадзянскай стабільнасці — гэта ўлік інтарэсаў усіх грамадзян, г. зн. цэнтралізм — асобна і дэмакратыя — асобна. Выхаванне новага пакалення беларусаў, карыстаючыся прынцыпамі дэмакратыі, — адна з нашых задач.

**— Ці маеце Вы да таго базу?**

— Так. Сёння ў Беларусі амаль не засталося падручнікаў савецкага часу і, адпаведна, зместу. Нашы падручнікі апошнія гады выдаваліся з улікам таго, што 70 працэнтаў школ краіны будуць беларускімі. Сёння гэтыя кнігі ляжаць на складах. Акрамя таго, сябрамі ТБШ з'яўляюцца многія аўтары беларускіх падручнікаў і навукоўцы. Гэта значыць, наша арганізацыя мае патэнцыял, дастатковы для выпрацоўкі адзінай канцэпцыі нацыянальнай адукацыі (дзяржава яе не стварыла) і стварэння адпаведнай ёй серыі падручнікаў як для сярэдняй, так і для вышэйшай школы.

**— Чым займаецца Таварыства цяпер?**

— Арганізацыйнай дзейнасцю. Мы чакаем рэгістрацыі нашага статута Міністэрствам юстыцыі (з першага разу ён не прайшоў). Тым часам нашыя суполкі працуюць, работа ідзе. І, думаю, яна дасць плён.

**Распытваў У. ПАНАДА.**

Актуальна

Актуальна

# Патрыёты ў Смілавічах не здаюцца

Сесія Чэрвеньскага раённага Савета, якая адбылася сёлетняй вясной, надала пачатак барацьбе з беларускім словам прадстаўнікоў розных адгалінаванняў мясцовай улады, распаліўшы сітуацыю ў тутэйшай сістэме народнай адукацыі.

Травеньская сесія мясцовага дэпутацкага корпусу вызначылася вастрынёй не ў эканамічных пытаннях, а ў ... моўных: якое вызначыць месца беларускай і расійскай мовам і найперш — у гарадскіх школах Чэрвеня.

Дыскусію распачаў педагог, дырэктар беларускай СШ № 1 Леў Ганчарык. Ён абвінаваціў "вертыкаль" у разбурэнні ягонага натаўніцка-вучнёўскага калектыву, на базе якой насуперак волі бацькоў і вучняў было вырашана стварыць гарадскую гімназію. Першая школа, даводзіў дэпутат, давала дзецям грунтоўныя веды: тры чвэрці мінулагодніх выпускнікоў зараз вучацца ў ВНУ. Дык ці варта на падмурку паспяхова працуючага калектыву ствараць гімназію? Чаму, каб нешта стварыць новае, неабходна разбурыць ужо дзеючае! Прычым, знішчыць нацыянальную школу!

У адказ камуніст таварыш Макейчык адзначыў: у райкам ПКБ штодня звяртаюцца бацькі іншых моўных прыхільнасцяў. І ўсё на конт "так званай беларусізацыі". Нібыта не ўлічваючы іхняе жаданне, гарадскія школы пераводзяцца ў статус беларускіх.

Дзесьці праз месяц, у чэрвені, загадчык аддзела адукацыі Міхаіл Рускевіч у тамтэйшай газеце "Раённы веснік", даючы адказ дыскутантам, паведаміў: усё ж на базе СШ № 1 будзе ствараецца гімназія. Што да папрокаў дэпутата-камуніста, то, як тлумачыў спадар Рускевіч, выданне новых падручнікаў на расійскай мове ідзе вельмі марудна і не забяспечвае патрабаванняў пераводу ўсіх школ на расійскую мову навучання.

"Па гэтай прычыне ў г. Чэрвені вызначаныя ўсе школы з беларускай мовай навучання, за выключэннем СШ № 4", — афіцыйна праз мясцовую газету "Раённы веснік" ужо праз месяц пасля сесіі паведаміў кіраўнік аддзела адукацыі райвыканкама Міхаіл Рускевіч.

Зразумела, беларускасць у большасці школ удалося захаваць таму, што не маўчала нацыянальная інтэлігенцыя Чэрвеня, падтрыманая Ігуменскай філіяй ТБМ імя Францішка Скарыны.

Тэбээмаўцы не толькі заклікалі ўлады ад "вертыкалі" пасаромецца, не проста разам з бацькамі вучняў, якія навучаліся ў беларускіх школах, настойліва звярталіся ў той жа аддзел адукацыі, дзе таксама не ўсе паддаліся русіфікатарскай істэрыі, з просьбай улічыць іхнія інтарэсы, але і актыўна супрацьстаялі мясцовым асімілятарам.

Асаблівы рэзананс выклікаў артыкул педагога, сябра ТБМ Святланы Адамовіч пад загалоўкам "Няўжо так і будзе "трасянка" ў модзе?" — гэты матэрыял надзвычай своечасова змясціў рэдактар "Раённага весніка" Аляксандр Бушэнка, чалавек, якому блізкія ідэі нацыянальныя, патрыятычныя.

Вернемся да згаданага артыкула. Ён актыўна палемізуе з прыведзеным ужо выступам дэпутата камуніста І.Макейчыка на травеньскай сесіі, грунтоўна разбураючы аргументацыю гэтага таварыша на карысць русіфікацыі.

Думкі маладой настаўніцы падаліся не проста слушнымі, але ж — узорам таго, як беларускаму інтэлігенту трэба ў друку адстойваць духоўныя каштоўнасці свайго народа, асабліва — мову.

Маладая настаўніца піша пра "так званую "беларускасць" школ і асабліва гарадскіх". Трапна падмечана — "так званую". Сапраўды, якая ж гэта беларусізацыя, калі ў школах адзін, два, тры ці (максімум) чатыры беларускамоўныя класы, якія будуць нагадваць рэзервацыі для малалетніх беларусаў! СШ № 1 адзін перыяд была сапраўды беларускай, але яна расфарміроўваецца. Гэта не забяспечыць выкананне волі бацькоў. Але ці заўсёды гэтая ініцыятыва, гэтая "воля" залежыць ад саміх бацькоў? — заўважае сп. Святлана Адамовіч.

*"Ці ў нас заўсёды будзе панаваць усім вядомая "трасянка" без межаў і правілаў, а мы будзем захапляцца — вось якія малайцы, ведаем дасканала мову! Ну, дык давайце дзяржаўнай мовай і зробім "трасянку" — тады ўсім будзе добра, бо валодае ёй кожны. Для гэтага спецыяльнай адукацыі не трэба. Дык няўжо ж беларусаў зноў будуць лічыць цёмнымі, забітымі і непісьменнымі, як калісьці ў XIX стагоддзі, калі Беларусь уваходзіла ў склад царскай Расіі?" — з горыччу кажа аўтарка.*

*"Многія гавораць, — працягвае яна, — маўляў, навучаліся на беларускай — справяцца і на расійскай. Так, справяцца. Але, па-першае, колькі чалавек? А, па-другое, чаго гэта дзецям будзе каштаваць?.. А галоўнае — як глядзець у вочы дзецям, калі сёння гаворым адно, а заўтра — другое? Вы думаеце — яны малыя — не разумеюць? Яны ўсё разумеюць і ўсё запамінаюць. Іх жаданні хто-небудзь улічваў? Няўжо самі другакласнікі (25 чалавек), раптам правучыўшыся год на беларускай мове,хорам запатрабавалі: "хацім навучацца на рускай!" Канешне ж, не.*

*"А нехта скажа: "Ды якая розніца, на якой мове навучацца, абы быў адукаваным". Але адукаваным лічыцца чалавек, які, акрамя ўсяго іншага, дасканала валодае роднай мовай. Памятаю, — піша настаўніца, — не толькі мяне ўразіў адзін выпадак. Некалькі гадоў назад мы ездзілі на Украіну. У адным горадзе спыталіся ў маленькай дзяўчынкі дарогу. Было ёй гадкоў 5, дашкольнага ўзросту. Яна адказала нам на чыстай украінскай мове"...*

Яшчэ раз хачу згадаць пра газету "Раённы веснік". Яна не толькі выходзіць па-беларуску, але і выпускае мэтавыя старонкі, якія выхоўваюць у жыхароў павагу і любоў да роднага слова, да роднай культуры і гісторыі. Гэта найперш тэматычная паласа "Мова. Культура. Нацыя." Затым — "Школьны мерыдыян". Гэта рубрыкі — "Мой родны кут...", "Погляд праз гады", "Нашы славутыя землякі" ды іншыя.

Чытаючы ў газеце палеміку вакол беларускай мовы шматлікіх аўтараў, радуешся, колькі годных патрыётаў Беларусі, колькі разумных людзей мае Чэрвеньшчына!

Старшыня Ігуменскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны Уладзімір Адамовіч (дарэчы, бацька згаданай аўтаркі — Святланы Адамовіч) таксама, як і дачка, — педагог — пацвердзіў інфармацыю загадчыка аддзела адукацыі Міхаіла Рускевіча. І нават паведаміў, што беларуская школа №1 рэарганізавана менавіта ў беларускую гімназію, што сем класаў, якія там ужо вучацца па-беларуску, захаваюць таксама свой беларускамоўны статус. 4-я школа будзе расійскамоўнай, дзе, праўда, Святлана Адамовіч вядзе адзін беларускамоўны клас. Між іншым, ні дзеці, ні іхнія бацькі гэтак, не захацелі вучыцца на расійскай мове пасля рэферэндуму. Сёння ў сп. Адамовіча галава баліць пра лёс роднага слова ў Смілавіцкай СШ №1. Гадоў пяць таму расійскамоўныя школы — №1 і №2 — у гэтым мястэчку сталі набіраць дзетак у беларускамоўныя першыя класы. Але калі ў СШ №2 беларуская мова захавалася як статусная, то ў СШ №1 райаддзел адукацыі хоча ўсе класы перавесці да аднамоўя. Якога? Абстаноўка склалася даволі напружаная: які статус набудзе школа? Суполка ТБМ рашуча змагаецца за тое, каб статус быў беларускім.

У Смілавічах я гутарыў таксама з настаўніцай беларускай мовы і літаратуры Людмілай Рамішэўскай, актывісткай ТБМ. Яна паведаміла, што абсалютная большасць настаўнікаў, у тым ліку і з тых, што выкладаюць негуманітарныя прадметы, за тое, каб працягваць вучыць дзяцей і надалей па-беларуску. Гэтага жадаюць і бацькі вучняў. Але, паводле слоў Людмілы Рамішэўскай, у дырэкцыю паступаюць, нібыта стыхійна, заявы ад некаторых бацькоў, каб стварыць расійскамоўныя класы. І такім чынам альбо разбурыць моўнае школьнае асяроддзе, альбо наогул аднавіць расійскамоўны статус СШ №1. Зразумеўшы, адкуль вецер дзьме, сябры ТБМ пайшлі па хатах, да бацькоў, пачалі збіраць іх адпаведныя заявы за беларускамоўную школу. Хто пераможа? Здаровы нацыянальны сэнс ці манкурцтва? Але смілавіцкія настаўнікі, загартаваныя ў барацьбе з асімілятарамі, спадзяюцца, што перамога будзе за родным словам.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

# Ці развучацца дзеці чытаць?

**Гутарка з намеснікам дырэктара Цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы Гародні Л. М. Падкуйка**

**— Лідзія Мікалаеўна, якой літаратурай цікавяцца нашы дзеці?**

— Перш за ўсё гэта школьная праграмная літаратура ды літаратура для пазакласнага чытання. Асноўная маса хлопчыкаў і дзяўчынак аддае таксама перавагу прыгодам і фантастыцы. Але ёсць дзеці, у якіх ўжо склалася глыбокая цікавасць да літаратуры пра жывёльны свет, пра мастацтва і г. д.

**— А як зараз з паступленнем літаратурных навінак?**

— На жаль, атрымліваем значна менш кніг, чым раней. Напрыклад, за першае паўгоддзе 1996 года ў Цэнтральную дзіцячую бібліятэку Гародні паступіла ўсяго 108 экземпляраў кніжак.

**— Пяць гадоў таму колькі прыкладна атрымлівалі вы кніг за такі ж час?**

— Нашмат больш. Можа, разоў у пяць.

**— Значыць, калі захаваецца такая тэндэнцыя, калі справа і надалей так пойдзе з нашай эканомікай, да 2000 года мы дойдзем да дваццаці кніг на горад за паўгода.**

— Не дай божа.

**— А як у вас праходзіць камплектацыя бібліятэчнага фонду?**

— Праз бібкалектар. У 1995 годзе мы атрымалі літаратуры на 45 мільёнаў 350 тысяч рублёў.

**— Гэта і дзіцячая, і "дарослая" літаратура?**

— Так, на ўвесь горад.

**— І ўсё?**

— Калі-нікалі аддзел культуры гарвыканкама з мясцовага бюджэту выдаткоўвае грошы на даўкамплектаванне фонду. У такім разе купляем у кнігарні.

**— Гарвыканкам не забывае?**

— Дапамагае. У 1996 годзе ад горада Цэнтральная гарадская бібліятэчная сістэма атрымала крыху болей за 28 мільёнаў рублёў.

**— Калі ласка, скажыце пра сетку дзіцячых бібліятэк у Гародні.**

— Ёсць Цэнтральная дзіцячая гарадская бібліятэка па вуліцы Цітова, дзе мы з вамі зараз і гутарым. Адзінаццаць філіялаў гэтай бібліятэкі раскіданы па ўсім горадзе. А ў новых мікрараёнах на базе дзіцячых пакояў мы стварылі яшчэ два. Інакш кажучы, па просьбе бацькоў наблізілі кнігу да нашага маленькага чытача. У абавязкі нашай дзіцячай бібліятэкі ўваходзіць і абслугоўванне бліжэйшых школ...

**— У школах ужо няма бібліятэк?**

— Ёсць. Але там у асноўным падручнікі.

**— Які ў вас фонд дзіцячай літаратуры?**

— На сённяшні дзень налічваецца 48 тысяч кніг. Не многа.

**— А чаго з беларускай літаратуры вам не хапае?**

— І праграмнай, і па пазакласнаму чытанню. Мала твораў Васіля Быкава, Змітрака Бядулі. Таксама не хапае Уладзіміра Караткевіча, Уладзіміра Арлова, Міхася Лынькова, Аляксея Дударава, Івана Сяркова і многіх іншых нашых цікавых паэтаў і празаікаў. Хацелася б мець больш твораў аб прыродзе, жывёльным свеце — такіх, як цудоўная кніга Алеся Масарэнкі "На бабровых тонях".

**— А па гісторыі Беларусі? Пра Давыда Гарадзенскага ды іншых герояў Беларусі, як кніга Кастуся Тарасава "Памяць пра легенды"? Ці гэта дзяцей мала вабіць?**

—Яшчэ як цікавіць! Мы нават праводзім "Гадзіны гісторыі Беларусі", і нам вельмі не хапае такой літаратуры.

**— Акрамя чыста бібліятэчнай працы, вы робіце і шмат іншага ў галіне культуры, фактычна з'яўляецеся гарадскім культурным цэнтрам.**

— Так, усе бібліятэкі горада штомесяц і нават часцей праводзяць масавыя мерапрыемствы. Напрыклад, у Музеі гісторыі рэлігіі правялі вечарыну, прысвечаную Яну Чачоту. Адбываюцца і агульнагарадскія мерапрыемствы. Ужо стаў традыцыйным травеньскі "Агеньчык для ветэранаў вайны". Раней, у красавіку, арганізавалі курсы павышэння кваліфікацыі бібліятэчных работнікаў вобласці. Тады мы абмяркоўвалі кнігу "Казкі дзяцей Беларусі", якая выйшла з друку ў 1995 годзе.

**— Лідзія Мікалаеўна, я хачу згадаць пра конкурс "Юныя таленты". Добрая справа. Мая сям'я, у прыватнасці, вам вельмі ўдзячна. Гэта быў першы конкурс, у якім прымалі ўдзел мае дзеці. Як нарадзіўся гэты конкурс?**

— Конкурс гэты зрабіўся традыцыйным. Праводзім яго ўжо пяты раз. Як з'явіўся? У нас у бібліятэцы ёсць група пастаянных чытачоў — таленавітыя, захопленыя дзеці. Цікавяцца новай перыёдыкай, новымі часопісамі, непасрэдна тут, у маленечкай чытальнай зале і малююць. Такіх таленавітых дзяцей мы адшукваем, спрабуем развіць іх здольнасці, спецыяльна па іх заяўках заказваем літаратуру.

**— Нават для іх персанальна?**

— Так, таму што яны ў чымсьці вызначаюць інтарэсы і іншых дзяцей. І вось менавіта праца з такімі таленавітымі дзецьмі і падштурхнула нас у 1992 годзе да ідэі стварэння гарадскога конкурсу "Юныя таленты".

**— Лідзія Мікалаеўна, вы казалі надоечы, што ў вас ёсць і дзіцячы відэасалон?**

— Так, ёсць невялікі, гэта ў шостым філіяле на праспекце Касманаўтаў.

**— І што ж ён мае?**

— Відэакасеты і забаўляльныя, і касеты аб прыродзе, але іх не шмат.

**— Папа рымскі Ян Павел II, разумны, духоўны чалавек, асудзіў усеагульнае захапленне тэлебачаннем. Асаблівую шкоду прагляд тэлепраграм прыносіць дзіцяці. Сапраўды, праз тэлевізар адбываецца магутнае псіхалагічнае ўздзеянне з элементамі гіпнозу. Вы засталі яшчэ тыя часы, калі не ў кожнай сям'і быў тэлевізар. Тады дзеці больш чыталі? І як вы наогул ставіцеся да тэлебачання?**

— Сапраўды, цяпер дзеці чытаюць значна менш. Звычайна яны бяруць у нас толькі праграмную літаратуру ды кнігі па пазакласнаму чытанню. Канешне, ніякі тэлевізар, які дае гатовую, "разжаваную", інфармацыю, не заменіць кнігу. Але мне вядомы сем'і, якія наогул адмаўляюцца глядзець тэлевізар. Дзеці там больш чытаюць, мозг дзіцячы пры гэтым працуе і развіваецца.

**— Я неаднойчы бываў у школах, размаўляў з настаўнікамі і пераканаўся, што ў школах цяпер за мізэрны заробак практычна засталіся працаваць адны энтузіясты. А як у вас?**

— Мы, як і школы, працуем з дзецьмі. Таму ў нас і праблемы агульныя. А калектыў у нас добры. Скажу больш — таленавіты, вы толькі паглядзіце, як нашы дзяўчаты малююць. Усё ў бібліятэцы аформлена іх рукамі.

**— А ці вялікі калектыў?**

— Шэсць чалавек: Таміла Кузнецкая (працуе ў бібліятэцы больш за пятнаццаць гадоў), Ірына Уласава, Іна Сотнікава, Наталля Васько, Валянціна Мась ды я.

**— Памяшканне ў вас для бібліятэкі малапрыстасаванае.**

— Гэта так. У звычайным пяціпавярховым жылым доме пабудовы 60-х гадоў пад бібліятэку выдзелена тры кватэры. Да таго ж, побач у нашым двары дзве харчовыя крамы гандлююць спіртнымі напоямі. Мы ўжо некалькі разоў звярталіся да гарадскіх уладаў. І зараз у мэра Гародні Генрыха Аляксандравіча Крупенкі ляжыць наша просьба аб выдзяленні нам пад бібліятэку нерэнтабельнага рэстарана "Ластаўка", які размешчаны непадалёк. Там прыдатныя для дзяцей памяшканні, вялікая зала, так што чакаем рашэння...

**— Спадзяюся, Генрых Аляксандравіч дапаможа. Лідзія Мікалаеўна, а якія ў вас сувязі з гарадзенскай творчай інтэлігенцыяй? З кафедрай беларускай культуры універсітэта, якую ўзначальвае прафесар Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч, дарэчы, сябра Саюза пісьменнікаў?**

— Пастаянныя. А са спадаром Пяткевічам у нас нават было некалькі сустрэч. Наведвае бібліятэку і Данута Іванаўна Бічэль-Загнетава. Яна штогод праводзіць Дзень дзіцячай і юнацкай кнігі. І з Марыяй Шаўчонак, з Юркам Голубам сувязі маем. Сустрэчы з пісьменнікамі заўсёды запамінаюцца. Дзеці вельмі задаволены.

**— А спонсары, ці, па-нашаму, фундатары, у вас ёсць?**

— Ёсць людзі і фірмы, якія нас падтрымліваюць. Мы вельмі ўдзячныя нашым спонсарам. Каб не яны, мы не змаглі б праводзіць мерапрыемствы, конкурсы і сустрэчы. Хачу падзякаваць СП "Тандэм" (спадары В.Гаўрыленка і Т.Лукошка), СП "Гродсоуп" (сп. М.Бакуновіч), "Авеста-Джыва" (сп. С.Старавойтаў), Гарадзенскаму філіялу фірмы "Пушэ" (сп. В.Аутка), фірме "Факел" (сп. А.Мажэйка), казіно "Тры сямёркі" (сп. К.Цюхцяеў), фірме "Лютана" (сп. Л.Чугунова).

**Распытваў Сяргей КАНУННІКАЎ.**

г. Гародня.

Але!

# На гастролі — з рэкламай застойных гадоў

З нагоды дня вызвалення Слуцка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў сюды, па запрашэнні аддзела культуры гарвыканкама, прыязджаў Дзяржаўны танцавальны ансамбль Рэспублікі Беларусь. На гарадскім стадыёне ён даў канцэрт. Паўтары гадзіны не змаўкалі музыкі, кружыліся ў віхурных танцах пары і цэлыя групы. Усё было пастаўлена на высокім прафейным узроўні, госці падарылі случчанам радасць і добры настрой. На жаль, расклееныя каляровыя рэкламныя афішы ў цэнтры горада здзівілі: ад іх павеяла застойнымі гадамі, бо назва творчага калектыву, прозвішча яго кіраўніка былі аддрукаваны на расійскай мове, з "перакосам" і ў назве дзяржавы: "Государственный танцевальный ансамбль Белоруссии". Побач — тыя ж словы на англійскай мове — з прыцэлам на Захад. Мала, што дома сябе, сваю мову не паважаем, дык і на Захадзе будзе сумбур распаўсюджвацца.

Выснова, на маю думку, такая: альбо кіраўнікі ансамбля прывезлі з сабою даўнюю, аддрукаваную ў перабудовачную эпоху рэкламу, альбо камусьці і сёння не па душы і наша мова, і назва дзяржавы.

**М. ТЫЧЫНА.**

г. Слуцк.

*У суседзяў*

# Украінцы — не беларусы, або Як у Кіеве прымалі Канстытуцыю

У нашых дзяржаўных сродках масавай інфармацыі вельмі скупа паведамлялася аб прыняцці парламентам Украіны новай Канстытуцыі. Маўляў, ну, што такога, прынялі і ўсё. Прэса Расіі чамусьці гэтую падзею асвятляла куды падрабязней, і левая, і правая. Нават "Литературная газета" апублікавала вялікі рэпартаж свайго карэспандэнта з Кіева ў пачатку другой паласы — на самым "чытабельным" месцы, як сцвярджаюць сацыёлагі. Загаловак далі такі, што варта перапісаць: "Украина приняла Конституцию. Парламентарии на радостях выпивали и закусывали прямо в сессионном зале". "Выпівалі" — гэта, відаць, не зусім дакладна сказана. Хутчэй — "узялі чарку", калі па-нашаму. Дык і што?

У Маскоўскім Крамлі ці не тое ж рабілі, калі падпісалі чарговую дамову аб "звышцесным единении" Расіі і Беларусі. "Бацька" беларусаў потым на радасцях нават посуд біў. Прама аб шыкоўны паркет царскай залы. Ведай нашых. Уплывовая расійская "Общая газета" рэпартаж свайго карэспандэнта з Кіева змясціла на пятай паласе ў раздзеле "Мы. Вместе и порознь" з экспрэсіўнымі фотаздымкамі агенцтва Рэйтэр пад загалоўкам "Парламентская всенощная" і слоганам: "На Украине наконец-то принята Конституция. Предшествующие этому события были полны драматизма и внутреннего напряжения". Адзначаецца, што падштурхнуў дэпутатаў Вярхоўнай Рады прыняць нарэшце Асноўны Закон прэзідэнт Леанід Кучма, бо гэта неабходна для ажыццяўлення на Украіне рашучых рынкавых рэформ. Пракамуністычны ўкраінскі парламент гэтаму доўга ўпарціўся. Не тое, каб камуністы ўкраінскія прагнулі паўтарыць подзвіг Хмяльніцкага ды "воссоединиться", але ж па-ранейшаму змагаліся за свой "сацыялізм-камунізм", пры якім выгадней быць дзяржаўным чыноўнікам, чымся ўвішлівым капіталістам. Спасылаліся, само-сабой, на "волю народа". Парадокс заключаецца ў тым, што і Леанід Кучма прыгразіў: калі Канстытуцыю не ў стане прыняць Вярхоўная Рада, ён, прэзідэнт, звернецца да народа, абвесціць рэферэндум. Парламент устрывожыўся і пачаў актыўна абмяркоўваць праект Канстытуцыі.

"Да гэтай пары для аналітыкаў,— заўважае карэспандэнт "Литературной газеты",— застаецца загадкай, чаму ўкраінскія "левыя" гэтак баяцца рэферэндумаў". Большасці расійскіх наглядальнікаў таксама здаецца, што пераважная частка насельніцтва Украіны, асабліва ўсходніх абласцей, галасавала б на рэферэндуме не толькі за "сацыялізм" і вяртанне ў савецкія часы, але і за "воссоединение", і адпаведна за дзяржаўнасць расійскай мовы. Тым не меней хутчэй за ўсё гэта ці атавістычныя ілюзіі, ці памылковае параўнанне ўкраінцаў з "рахманымі" беларусамі.

Але ўкраінцы — іншыя, што яны ўжо даказалі, дружна (90 працэнтаў — "за") прагаласаваўшы за незалежнасць Украіны на рэферэндуме. Украінскія камуністы, ці "левыя", выходзіць, лепей ведаюць настроі свайго народа і таму не захацелі спакушаць лёс на рэферэндуме, вырашыўшы прыняць Канстытуцыю на Вярхоўнай Радзе, дзе мелі пераважную большасць на чале са спікерам. Вось адкуль драматызм, аб якім паведамілі расійскія журналісты. Абмеркаванне пачалося 26 чэрвеня, а потым працягвалася ўсю ноч, і толькі ў 9 гадзін 20 хвілін наступнага дня адбылося галасаванне за прыняцце Канстытуцыі цалкам. 17 гадзін давялося выстаяць на трыбуне дакладчыку па праекту Асноўнага закона ў другім чытанні дэпутату Міхаілу Сіраце, якога потым назвалі трыумфатарам. Але перад тым быў доўгі і цяжкі начны марафон і бясконцае абмеркаванне папраўак. Камуністы хацелі зрабіць дзяржаўнай мовай яшчэ і расійскую. Не прайшло, давялося адступіць. Тады яны рынуліся ў бой за сімволіку. Левыя ніяк не жадалі прызнаваць гістарычныя сіне-жоўты сцяг і трызубец. Дэпутат ад камуністаў, паведамілі журналісты, пачаў крычаць, што гэта сімвалы апаганеныя, што пад імі "ваявалі з уласным народам "вражьи прислужники". Да камуніста кінуўся дэпутат ад правых і сілком пацягнуў ад мікрафона. У абарону "жовто-блакытного прапора" аднак затым выступілі ўплывовыя ўкраінскія палітыкі, кажучы, што ці мала хто спрабаваў у мінулым скарыстаць у сваіх мэтах гістарычную сімволіку, але ж цяпер менавіта яна ўспрымаецца іншымі краінамі як дзяржаўная ў незалежнай Украіне. Зноў разгарэліся спрэчкі, але пачаў перамагаць кампраміс — трэба не азірацца назад, а рухацца наперад. Ды і тут працэс "падштурхнуў" прэзідэнт, абвясціўшы, што выносіць пытанне на ўсенароднае галасаванне. Дэпутаты абурыліся. Тым не меней вырашылі абысціся без умяшання народа ў далікатную справу.

Калі галасаванне ўсё ж завяршылася прыняццем Канстытуцыі і Міхаіл Сірата нарэшце, хістаючыся, сышоў з трыбуны, на вачах у яго былі слёзы. "На мокрым месцы былі вочы і ў добрай палавіны залы",— паведамілі журналісты. У залу ўвайшоў прэзідэнт Украіны Леанід Кучма пад гістарычным і цяпер ужо канчаткова дзяржаўным "жовто-блакытным прапором" і папрасіў у дэпутатаў прабачэння за тое, што, "магчыма, недастаткова карэктна стымуляваў канстытуцыйны працэс". Асаблівай суровасці да яго дэпутаты, па сведчаннях журналістаў, не праявілі. У тым ліку і левыя. Усе адчувалі за сценамі парламента дыханне ўкраінскага народа, які рашуча выбраў незалежнасць для сваёй краіны.

**Такім чынам, камуністам і сацыялістам давялося змірыцца, пішуць журналісты, што на тэрыторыі Украіны пражывае ўкраінскі народ, а не народ Украіны, на чым яны так доўга настойвалі. Што дзяржаўным сцягам Украіны з'яўляецца гістарычны сіне-жоўты, а дзяржаўным гербам — залаты трызубец на сінім фоне, дзяржаўным гімнам — "Шчэ нэ вмерла Украіна". А адзіна дзяржаўнай мовай — украінская. Адначасова гарантуецца свабоднае развіццё і ўжыванне расійскай і іншых нацыянальных моў на Украіне.**

Само сабой абвешчаны суверэнітэт і тэрытарыяльная цэласнасць краіны. Зафіксавана права прыватнай уласнасці, у тым ліку на зямлю, а таксама норма, згодна якой на тэрыторыі краіны дапускаецца выкарыстанне існуючых ваенных баз на ўмовах арэнды і на дакладны тэрмін, азначаны міжнароднымі пагадненнямі. Кажуць, гэта ўскладніць адносіны Украіны з Расіяй, якая хацела для свайго флота пакінуць Севастопаль і яшчэ нешта ў Крыме. Ды мала хто і што хоча. Апошняе слова застаецца за народам, асабліва калі ён адчувае сябе еднасцю, нацыяй.

Віншуем братоў-украінцаў з прыняццем дэмакратычнай Канстытуцыі і жадаем ім дабрабыту і міру.

**Ул. Ас.**

# Нанава адкрываюць Летуву

Дажыліся: трэба нанава адкрываць для сябе Летуву — блізкую суседку нашу, шматвекавога гістарычнага партнёра. А было ж нядаўна, згадвае карэспандэнт газеты "Звязда", менскія студэнты спецыяльна ездзілі ў Вільню, каб пахадзіць па Старым горадзе, папіць летувіскага піва, а заадно крыху глынуць еўрапейскай свабоды, адчуць хоць ненадоўга сябе ў Еўропе. Так, пагодзімся з аўтарам рэпартажу ў "Звяздзе" Ю.Ляшкевічам, сапраўды летувісы берaглі сваю самабытнасць і непахіснае імкненне да еўрапейскай цывілізацыі нават у СССР-скі час. І калі момант для ажыццяўлення гэтай ідэі настаў, не сталі спаць у шапку. Ажно ноччу, баючыся, што ўжо раніцай Масква ўстановіць сталёва-танкавы імперскі шлагбаўм, летувіскі парламент прыняў рашэнне аб выхадзе з СССР. Як над гэтым здзекваліся-насміхаліся нашы пракамуністычныя начальнікі! Маўляў, не пражыве Летува самастойна, папросіцца назад. А зараз вось даводзіцца замоўчваць поспехі Летувы ў эканоміцы і культуры, каб не бянтэжыць беларусаў, якія ўсё марaць пра заможна-калгасны камунізм. Адразу скажам: "Наша слова" ў стварэнні гэтага інфармацыйнага вакууму пра Летуву ўдзелу не брала. Вітаем, што і газета "Звязда" вырашыла "прасекчы акно", як яна піша, да нашай гаспадарлівай і годнай суседкі. А мы даўно і неаднойчы паведамлялі, што летувісы сталі жыць лепей за беларусаў, бо заўсёды шанавалі і сваю мову, і сваю гісторыю, і такім чынам паважалі сябе як народ.

**У.А.**

Гэтым унікальным здымкам 50 гадоў. На іх — заходнебеларускія хлопцы і дзяўчаты, якія здабывалі веды на роднай мове ва ўмовах фактычнай акупацыі свайго краю Рэччу Паспалітай. З аповедаў жывых сведак і з друкаваных крыніц вядома, чаго ім гэта каштавала. Ды і ў сваіх папярэдніх публікацыях ("За долю і волю", №№ 1, 2, 4, 5, 8) "Наша слова" расказала пра арганізаваную барацьбу заходніх беларусаў за родныя школы, за адраджэнне нацыянальнай культуры і свядомасці, за права "людзьмі звацца". Таму моладзь, якую вы бачыце на здымках, была ўзгадавана на пашане да старэйшых, на пашане да ўсяго традыцыйнага ў побыце і культуры беларусаў. Незалежніцкія ідэалы і абуджаная гістарычная памяць надзейна баранілі яе ад духоўнай залежнасці, ці інакш, ад асіміляцыі. Здымкі належаць былому жыхару вёскі Іванавічы Маўчадскага сельсавета Баранавіцкага раёна, настаўніку Феадосію Аляксандравічу Здановічу, якому споўнілася 82 гады. Падаём яго каментар:



"Першы здымак зроблены фатографам Шыманоўскім у 1934 годзе. На ім калегі і каляжанкі 6-га класа Беларускай Навагрaдскай гімназіі. Арганізаваў здымак Свірыд Міша. Ён на здымку першы злева ў трэцім радзе. Перад ім у другім радзе — Ніна Тарас — вядомая ў Беларусі паэтэса, якая ў гады Вялікай Айчыннай вайны была арыштавана фашыстамі і вывезена ў Германію. Здымак цікавы тым, што на ім няма ніводнага з настаўнікаў. Я памятаю, што мы сабраліся і пайшлі ўсім класам да фатографа, каб адзначыць пераход у шосты клас. На другі дзень мы раз'ехаліся па родных мясцінах — кожны ў сваю вёсачку, і ніхто з нас не знаў і нават не думаў, што польскія ўлады ўжо падрыхтавалі пастанову аб закрыцці Беларускай гімназіі ў Навагрaдку. Ужо на трэці-чацвёрты дзень нашы бацькі атрымалі пісьмы-паведамленні аб тым, што Беларуская гімназія закрываецца, а вы (бацькі) можаце адправіць свайго сына або дачку ў польскую гімназію імя А.Міцкевіча ў Навагрудак ці ў філіял Беларускай гімназіі пры польскай гімназіі імя Ю.Славацкага ў Вільню. Гэта фота — гістарычнае, а мы — вучні — сведкі тых дзён, калі нашы патрыёты-паслы (Тарашкевіч і іншыя) змагаліся ў польскім сойме ў Варшаве і калі ішло змаганне беларускага народа за **выжыванне,** бо нас з маленства **прымушалі** не толькі вучыцца, але і гаварыць на польскай мове. Я сам сведка тых падзей.



На другім здымку я, ужо студэнт агранамічнага факультэта Віленскага універсітэта імя С.Баторыя, выпадкова сустрэўся са сваім калегам Антонам Ёдай, аднакласнікам Дзятлаўскай сямігадовай школы Гродзенскай вобласці. Ёда Антон сфатаграфаваны ў вайсковай форме лётчыка польскай арміі, а я ў паліто з галаўным уборам студэнта агранамічнага факультэта. Тады я быў на другім курсе універсітэта. А што да майго сябра Антона, то яго лёс мне невядомы. Здымак датуецца студзенем 1939г."

Да сказанага дадам, што на адваротным баку групавога здымка разборліва чытаюцца прозвішчы В.Першукевіча, Я.Першукевічанкі, З.Рагулянкі, М.Кавэліча, А.Рагулянкі, В.Жыромскай, З.Кур'яніка, М.Свірыда, Н.Тарасніка, А.Дубавічанкі. У трэцім радзе чацвёрты злева — Ф.Здановіч.

**Падрыхтавала Ірына КРЭНЬ.**

*У свеце*

# Абараніць чачэнскі народ ад генацыду — справа сусветнага сумлення

***З пачаткам агрэсіі Расіі супраць Чачні ў шмат якіх краінах былі створаны грамадскія камітэты ў абарону чачэнскага народа, у якія ўвайшлі як самі чачэнцы, так і палітыкі, грамадскія дзеячы, якім не абыякавы іх лёс. Яны бачаць у гэтай бруднай вайне небяспеку і для сваіх краін. Бо імперыя канчаткова не знікла са свядомасці расійцаў і іхняга кіраўніцтва, пацвярджэннем чаго і служыць вынішчэнне цэлага народа.***

***Сёння мы прапануем увазе чытачоў размову са старшынём міжнароднай групы па праблемах Чачні, дэпутатам Сейма Летувіскай Рэспублікі панам Альгірдасам Эндрукайцісам.***

**– Пан Эндрукайціс, як у летувіскім грамадстве ўспрымаецца чачэнская вайна і чым уласна займаецеся Вы і Вашы калегі з камісіі Сейма?**

– У Летуве вельмі вялікая ўвага надаецца чачэнскай вайне як ў грамадстве, так і сярод палітыкаў. Створана парламенцкая група падтрымкі Чачні з 26 дэпутатаў. Гэтыя парламентарыі ўваходзяць у міжнародную групу па праблемах Чачні, у якой працуюць прадстаўнікі 22-х краін. Мы займаемся чачэнскай праблемай таму, што гэта этычная праблема прыніжанага і ў дадзеным выпадку знішчаемага народа, гэта пытанне сусветнага сумлення. Другое пытанне стратэгічнае, бо тут відавочная праява расійскага імперыялізму, і Расіі ніхто не даваў права вызначаць, мае ці не чачэнскі народ права на незалежнасць. Цэлы шэраг дзяржаў, значна меншых па тэрыторыі і насельніцтву, маюць незалежнасць і ўваходзяць у ААН. Мне некалькі разоў выпадала быць у Чачні і лічу, што гэты народ мае поўнае, маральнае і юрыдычнае права на ўтварэнне сваёй дзяржавы.

Наша камісія мае сувязі з Арганізацыяй па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе і з Радай Еўропы. Мы вядзём перапіску, атрымліваем адтуль інфармацыю і дасылаем ім мемарандумы, заявы, пратэсты – усё, што тычыцца гэтай вайны. У сваёй дзейнасці мы кіруемся Пактам па грамадзянскіх правах, прынятым 16 снежня 1966 г. У першым артыкуле гэтага пакта запісана, што кожны народ мае права на самавызначэнне, а ў 50-м артыкуле гаворыцца, што гэтыя патрабаванні тычацца і тых краін, якія маюць федэратыўнае ўладкаванне. Наша камісія накіроўвае лісты вядомым палітыкам, парламентарыям.

**– У першую чаргу заходнім?**

– Так, але не толькі. Дакументы накіраваны і расійскаму ўраду, і пасольству, напрыклад, у сувязі з гэтымі фіктыўнымі выбарамі ў Чачні ў снежні і цяпер. Пытанне, па сутнасці, стаіць больш шырока. Гэта пытанне сумлення свету, таму што ў нікога з прадстаўнікоў вялікіх дзяржаў не ўзнікала жадання выказацца пра генацыд цэлага народа.

**– Як, на Вашу думку, чаму кіраўнікі краін той жа "вялікай сямёркі" так абыякавыя да лёсу Чачні?**

– Яны між сабой дамаўляюцца. Палітыка камуністычнага Кітая ўсім даўно вядомая, а ЗША, Вялікабрытанія і Францыя дамаўляюцца з Расіяй пра сферы ўплыву. У гісторыі ўжо быў прыклад такіх закулісных дамоў – пакт Молатава-Рыбентропа 1939 г., падобная дамоўленасць, хаця юрыдычна не аформлена, ёсць і зараз.

Калі ў снежні 1994 г. пачалося расійскае ўварванне ў Чачню, прэзідэнт Клінтан сказаў, што ён думае – гэта праблема вырашыцца малой крывёй. Гэта амаральна, калі з вуснаў прэзідэнта вялікай дзяржавы гучаць развважанні аб колькасці крыві. Нам прыходзілася сустракацца з былым дарадцам прэзідэнта ЗША З.Бжэзінскім пад час яго візіту ў Летуву, на яго думку, чачэнская вайна можа стаць маральным магільнікам Злучаных Штатаў. Вось такое меркаванне вядомага палітыка. Таму сама "сямёрка" – гэта самазванцы, якія хочуць вырашаць лёс свету ў абыход усялякіх этычных і маральных нормаў. Мы не збіраемся патрабаваць аб'яўлення вайны Расіі ці ўвядзення супраць яе эканамічных санкцый, сусветная супольнасць павінна даць маральную ацэнку дзеянням Расіі і абмежаваць яе апетыт. Прынцыповае рашэнне гэтай праблемы павінна быць. Асабліва шмат працуюць у гэтым накірунку Эстонія, Латвія і Летува. Нядаўна быў прыняты Зварот да Кангрэса ЗША, падпісаны 223 дэпутатамі парламентаў Летувы, Латвіі, Эстоніі, Турцыі і Польшчы. Калі б Расія хацела вырашыць чачэнскую праблему мірным шляхам, яна магла б пра ўдзеле ААН і АБСЕ правесці там рэферэндум і выбары. Але працягваецца вайна, з якой згаджаецца Захад, даючы 10 млрд. долараў праз Міжнародны банк і МВФ для Расіі, і тыя ж грошы ідуць на вайну.

**– Як часта вы кантактуеце з прадстаўнікамі Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя?**

– Мы падтрымліваем сувязь па тэлефоне, бо Расія не дае ўязных віз прадстаўнікам прыбалтыйскіх краін. За тыдзень да смерці прэзідэнта Джахара Дудаева я меў з ім тэлефонную размову. Нядаўна былі размовы з З.Яндарбіевым, старшынём чачэнскага парламента Ідзігавым. Часцей кантактаваць не ўдаецца толькі з-за бяспекі чачэнскіх лідэраў, але інфармацыю мы атрымліваем рэгулярна. Досыць часта яна перадаецца з Чачні праз Турцыю, і міністр інфармацыі М.Удугаў перадае пра становішча ў Чачні на радыё "Свабода". У верасні плануецца заслухаць прадстаўнікоў Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя на пасяджэнні Рады Еўропы ў Страсбургу.

**– Як, на Ваш погляд, ці будуць мець карысць перамовы, якія вядзе ўрад З.Яндарбіева з Масквой? Ці рэальны вывад з Чачні федэральных войскаў, пра які нядаўна заявіў прэзідэнт Ельцын?**

– Вывад войскаў практычна не вядзецца, ідзе замена адных частак другімі, пакуль расійскі бок не праяўляў добрай волі. Зноў вядзецца дэзінфармацыя. Калі вы прачытаеце інфармацыю "Інтэрфакса" ці іншых інфармагенцтваў, то з яе вы даведаецеся, як "нягоднікі чачэнцы абстрэльваюць мірных жаўнераў федэральных сіл на блок-пастах". Ёсць нейкая невялікая надзея зараз, калі са сваіх пасадаў зняты Барсукоў і Каржакоў, бо гэтыя людзі выступалі за вайну да поўнай перамогі. Будзем спадзявацца на тое, што Ельцын паслухае генерала Лебедзя, у перадвыбарчай праграме якога былі пункты пра спыненне вайны і правядзенне ў Чачні рэферэндуму. Але пакуль значных зрухаў на перамовах няма.

**Гутарыў Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

# Веруем

*Да 2000-годдзя хрысціянства*

## Новая рэлігія ў Рымскай імперыі

Рэлігійная свабода 313 г. аблегчыла місійную дзейнасць Царквы ўнутры імперыі і за яе межамі. Вынікі былі і проста выдатнымі. У першай палове V ст. нехрысціянамі заставаліся толькі невялікія групы паганцаў, габрэйскія супольнасці і частка германскіх плямёнаў.

Асяродкамі хрысціянскага місіянерства сталі лакальныя цэрквы, вернікі якіх разгарнулі актыўную дзейнасць сярод паганцаў. Гэта былі простыя людзі — купцы, маракі, жаўнеры, урадаўцы. Без іхняга ўдзелу наўрад ці місія мела б вялікі поспех. Манахі навярталі паганцаў больш спарадычна, часцей за ўсё ў тых мясцовасцях, дзе знаходзіліся іхныя кляштары. Лягчэй іншых прымаў хрысціянства вясковы люд, бо на карысць новай веры тут працавалі дадатковыя чыннікі: аўтарытэт дзяржаўных чыноўнікаў і цуды. Дзяржава спрыяла пашырэнню хрысціянства сваімі ўказамі, хаця многія паганцы ім актыўна супраціўляліся. Яны выдавалі пісьмы, у якіх называлі хрысціянства шкоднай рэлігіяй і абаранялі паганскія каштоўнасці. Гэты супраціў узначалілі інтэлектуалы — пісьменнікі, філосафы, тэолагі, якія часам набываў формы ўзброенай барацьбы. Так, у Верхнім Егіпце, Сірыі, Паўночнай Афрыцы гэта барацьба была арганізавана апазіцыяй рымскай уладзе, апроч рэлігійнага, насіла палітычны характар. Многія прымалі хрысціянства чыста фармальна, без унутранага перакanання пад націскам улады ці з кар'ерных меркаванняў.

Хрысціянізацыя габрэяў не была такой выніковай толькі з-за іх культурнай і рэлігійнай закрытасці, тым больш юдзейская рэлігія не была забароненай. Яшчэ Канстанцін Вялікі надаваў асаблівую ўвагу Палесціне, дзе ён будаваў хрысціянскія бажніцы. Ерусалім прыцягваў вялікую колькасць пілігрымаў, якія адведвалі святыя месцы, і набываў аблічча хрысціянскага горада.

У Аравіі яшчэ ў першыя стагоддзі паўстала моцная Царква з разгалінаванай структурай, і місіянеры з гэтага краю ішлі працаваць сярод іншых народаў.

Вялікую ролю ў распаўсюджванні хрысціянства ў Сірыі адыгралі манахі, якія займаліся місіянерствам сярод вяскоўцаў. Сталіца ж дзяржавы Анціохія стала хрысціянскай амаль цалкам.

Грузія прыняла хрысціянства дзякуючы цару Мірыяну, які паслухаў нявольніцу Ніно і прыняў місіянераў з Анціохіі, якія стварылі першае біскупства. На працягу IV стагоддзя хрысціянства шырока распаўсюдзілася па тэрыторыі ўсёй імперыі. Моцныя хрысціянскія асяродкі ў Кападокіі і Грэцыі выправілі місіянераў у Малую Азію, Далмацыю, Македонію і Афрыку і літаральна за некалькі гадоў народы гэтых краёў прынялі Хрыста. Як не дзіўна, але ў сталіцы імперыі досыць працяглы час паганства ўтрымлівала былыя пазіцыі. Рымская арыстакратыя ніяк не хацела пакінуць вялікі пласт сваёй культуры і прыняць новую веру. Пералом у іх свядомасці настаў тады, калі група жанчын з арыстакратычных колаў стала прапагандаваць хрысціянскае разуменне рымскасці. У IV ст. у гарадах Галіі існавалі лакальныя супольнасці, якія ў наступным стагоддзі перараслі ў адзіную моцную Царкву. Англія, Шатландыя і Ірландыя прынялі першых місіянераў у пачатку V ст., сярод якіх было шмат выдатных тэолагаў. Самым вядомым з іх з'яўляецца св. Патрык, якога называюць апосталам Ірландыі. На некаторы час развіццё місіі па брытанскіх выспах было спынена з-за нападу паганскіх плямёнаў з кантынента і адноўлена ў наступныя дзесяцігоддзі.

Германцы ў рымскіх надрэйнскіх правінцыях ведалі хрысціянства і мелі цэрквы ўжо ў II ст. У наступным перыядзе прынялі хрост тыя з іх, хто знаходзіўся на службе ў рымскага імператара. Але першым германскім племем, якое арганізавана прыняло хрысціянства, былі бургундцы.

Готы пазнаёміліся з хрысціянствам яшчэ раней за бургундцаў, але працэс яго прыняцця ішоў у іх значна павольней і скончыўся ў канцы IV ст. У першай палове V ст. гоцкая царква ўжо сама займалася місіянерствам і павярнула плямёны Остготаў, Гепідаў, Вандалаў, Аланаў, Ругіяў і іншых. Апошнім германскім племем, прыняўшым хрысціянства, былі Лангабарды.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

*З рэдакцыйнай пошты*

## Мой шлях да Бога

Піша вам ваша пастаянная чытачка, і пішу я ў падтрымку рубрыкі "Веруем". Мне ўсё ў ёй цікава: гісторыя чалавецтва і хрысціянства, гісторыя напісання Бібліі і цудадзейных ікон.

Большую частку свайго жыцця я пражыла заядлай атэісткай, і толькі пяць гадоў таму ў выніку аднаго дзіўнага выпадку сама прыйшла да Бога і павяла за сабой сваю сям'ю. Не ведаю, як бы жыла без Бога мая сям'я гэтыя пяць гадоў, а што да мяне асабіста, дык, мабыць, я не вытрымала б усіх стрэсаў сённяшняга жыцця. А цяпер адчуваю пастаянную падтрымку свайго ўсемагутнага абаронцы і нікога не баюся.

Пяць гадоў назад я нічога не ведала пра Бога. Біблію не разумела, у касцёле імша праводзілася на польскай мове, якую я ведала недасканала. Цяпер, дзякаваць Богу, шмат змен да лепшага. У нас, у Гародні, у Фарным касцёле ў нядзелю праводзіцца беларуская імша, пасля яе — лекцыі на рэлігійныя тэмы, перакладзена на беларускую мову і надрукавана кніга святога Францішка з Саль. Ваша рубрыка "Веруем" таксама дапамагае пазнаваць Бога, верыць у яго не слепа, а грунтуючыся на гістарычных даследаваннях.

У мяне ёсць просьба і прапанова. Згодна з календаром каталіцкім і праваслаўным, змяшчаць нататкі аб хрысціянскіх святых. Біяграфічныя звесткі няхай мінімальныя, а галоўнае, чым яны былі цудоўнымі, выдатнымі, чаму яны сталі святымі, што яны пісалі або гаварылі. Яшчэ хацелася б, каб у гэтай рубрыцы вытлумачылі сэнс хрысціянскіх святаў, і не толькі самых вялікіх, але і малых, іх гісторыю і сучаснае асэнсаванне.

Хацелася б, каб і рубрыка "Кола сям'і" была заўсёды ў газеце. Смела бярыце, перакладайце артыкулы з замежных газет і часопісаў аб выхаванні дзяцей, аб псіхалогіі сямейнага жыцця з прыкладамі шчаслівых сем'яў і г.д.

Я сама гавару па-расійску, але душа баліць за беларускую мову і нашу мілую Бацькаўшчыну, чытаю газеты толькі на беларускай мове, а цяпер і кнігі не баюся чытаць. Гэта толькі дзякуючы Богу, я ж беларускія словы ўпершыню стала вымаўляць у касцёле, калі вучылася маліцца.

**Валянціна ЛЕАДАНСКАЯ.**
г. Гародня.

## Я — за рэлігійны плюралізм

Мяне зацікавіў артыкул з вашай рубрыкі "Веруем" "Хрысціянства і сацыялізм". Мушу сказаць, што да з'яўлення гэтае рубрыкі "НС" я прачытваў цалкам. Цяпер хрысціянскую старонку я хутчэй за ўсё проста праглядаю. Справа ў тым, што названы артыкул мае непасрэднае сутыкненне з маім светапоглядам. Па перакананнях я сацыялісты (а не эсдэк), а дакладней — сацыял-патрыёт. У мяне нават ёсць, хоць і ў стадыі распрацоўкі, свая канцэпцыя сацыял-патрыятызму. Да хрысціянства я стаўлюся нават менш прыхільна, чым да камуністычнай ідэалогіі. Калі хтосьці думае, што сацыялізм і камунізм — гэта адно і тое ж, той глыбока памыляецца. Камуністычнае вычварэнне збудавана на двудумстве: можна адначасова прымаць дзве ўзаемавыключаючыя аксіёмы, кшталту "добра жыць — дрэнна" і "хто дрэнна жыве, той нічога не варты"!

Мая версія наконт таго, чаму ўзнікла камуністычная ідэя, выглядае так — хрысціянства не магло ці не хацела рэфармавацца, і таму была перахоплена ініцыятыва. Лёс першых камуністаў, хаця і не адзін да аднаго, нагадвае пакуты першых хрысціянаў. Не думаю, каб гэта было супадзеннем!

Не з'яўляючыся антыкамуністам (хаця больш у сілу сваіх лявацкіх поглядаў), тым не менш я магу вызначыць сябе як антыхрысціяніна. Ніводзін з тых хрысціянаў, якіх я ведаю асабіста, не з'яўляецца асобай, якая цалкам разумее, на мой погляд, вучэнне Хрыста. Усе ці амаль усе былыя ці цяперашнія камуністы (а я ведаю такіх, якія *ўступілі ў ПКБ толькі* пасля забароны КПБ-КПСС, а дагэтуль былі беспартыйнымі) ходзяць у царкву, пераважна ў праваслаўную.

Аднак я не супраць любой рэлігіі, калі гэта шчырая вера. Я за рэлігійны плюралізм на Беларусі, супраць панавання ў нас аднае рэлігіі ці канфесіі.

**Андрусь ХРАМЦОЎ.**
г. Гомель.

***Яго парафія — вуліцы Парыжа. Ён любіць тых, каго ніхто не любіў. Яго пакліканне — душпастырства сярод маладых злачынцаў і наркаманаў.***

## Гі Жыльбэр — святар хуліганаў

Гі — трэцяе дзіцё сярод пятнаццаці ў сям'і, якая не вылучалася набожнасцю. Але, як успамінае ён сам, "сустрэча са светам, у якім я жыву, найперш была сустрэчаю з Хрыстом". Хлопец так цікавіўся рэлігіяй, што да першай камуніі пайшоў разам са старэйшымі братам і сястрой. А ў 13 гадоў ён вырашыў вучыцца на святара.

"Дзевяць гадоў семінарыі былі вельмі цяжкім дасведчаннем для такога незалежнага шчанюка, якім быў я,— успамінае айцец Гі.— Я гаварыў сабе, што плюю на такую Царкву і асабліва на святароў, якія гавораць пра Бога, але ім не жывуць. Але Евангелле прыцягвала мяне надалей. Гэты Езус Хрыстос, Сын Божы, народжаны бедаком і памёрлы як гангстэр, які жыў цудоўнай свабодай — ён, а не твары маіх семінарскіх настаўнікаў, прыцягваў мяне".

"У час вайны ў Алжыры, у якой мне выпала ўдзельнічаць, я хацеў парваць з Царквою. Я ўдзельнічаў у вайне не з уласнай волі, але мушу сказаць, гэтыя два з паловаю гады ў арабскай краіне, у гэтым свеце нянавісці, вайны і гвалту, далі майму пакліканню моцныя карані. Я бачыў бедных, якія дзяліліся з іншымі тым, чаго не ставала ім самім. У мусульманскім свеце я перачытаў Евангелле аднова, нашмат глыбей, чым раней. Пасля гэтай вайны я канчаткова вырашыў стаць святаром. Сустрэчы ў Алжыры з людзьмі найбяднейшымі былі пасля семінарыі маёй другой сустрэчай з Евангеллем. У 1965 годзе я стаў святаром."

"Я заўсёды кажу: Пан Бог піша проста нават па крывых лініях жыцця. Я марыў стаць вясковым пробашчам, а паглядзіце, што Пан і Царква з мяне зрабілі...

Вяртаючыся дадому аднаго вечара, я заўважыў 12-гадовага хлопца, што сядзеў на краі ходніка, а надвор'е было жудасным. Я спытаў, што ён робіць, а ён адказаў, што не хоча ісці дадому, бо есць там пасля сабакі з сабачай місы. Я пусціў яго да сябе на адну ноч, а застаўся ён на сем гадоў. Я ўбачыў выразны знак Божы ў тым, што ён сказаў мне: "Ты выцягнуў мяне з бруду, але столькі маіх прыяцеляў яшчэ на вуліцы". З таго часу я пачаў знаёміцца з бандамі маладых хуліганаў і ўбачыў, што адзінай іхняю віною (магу пацвердзіць гэта цяпер, праз 20 гадоў) ёсць тое, што ніхто іх не любіў. Адзінай віною тых людзей, якіх я з ранку да вечара сустракаю на вуліцах Парыжа і ў турмах, ёсць тое, што іх не любілі. Гэта адсутнасць любові выгнала іх на вуліцы і кінула ў турмы.

Восем гадоў я быў настаўнікам маладых на вуліцах Парыжа. А шэсць гадоў таму мы з маімі васьмю супрацоўнікамі і супрацоўніцамі вырашылі займацца найгоршымі, тымі, якія нікому не патрэбныя. Я гавару так і думаю, што Евангелле патрабуе ад хрысціяніна, які хоча быць сапраўдным хрысціянінам, шукаць немагчымых выйсцяў.

У нас 8 выхавацеляў, хлопцаў і дзяўчат, якія нам дапамагаюць, 40 прыёмных сем'яў, 80 дарослых ахвотнікаў і гаспадарка ў Правансе, якую маладыя будавалі 10 гадоў і якую скончылі на мінулы Вялікдзень. Жыць Богам у гэтым свеце — значыць перадусім пра Яго не гаварыць. Памятаю хлопца, які мне сказаў: "Божая любоў — г...но, любові няма. Мяне ніхто не любіў". Я адказаў, што Бог хоча, каб я яго любіў. А той фыркнуў, што не хоча быць любімым кімсьці да таго пастаўленым.

Гаворачы пра любоў, мы кідаем Богам у твар другому, не ведаючы, ці любіў хто чалавека, ці не. Але калі мы ідзём да згубленай авечкі, Бог гаворыць нам, што менавіта яе мусім мы адшукаць, пакінуўшы 99 тлустых і дагледжаных, і што мы мусім замест балбатні найперш даць ёй чалавечую любоў."

Евангелізацыя свету паволі знаходзіць сабе дарогу паводле прынцыпу, сфармуляванага адным з нашых кардыналаў: **"Жывіце так, каб іншыя, гледзячы на вашае жыццё, мусілі сказаць: немагчыма, каб Бог не існаваў".** Праз дзесяць гадоў сваёй працы я ўбачыў знакі ягонай слушнасці. Жан-Клод, хлопец з вуліцы і з турмы, якога я шэсць разоў выцягваў з пастарунку, казаў мне: "Не чапай мяне, я звычайны дурань, я — ніхто, я не патрэбны нікому", а я адказваў, што застануся з ім да канца. Пасля чарговага побыту ў турме ён прыйшоў на нашую базу і сказаў: "Гі, я хачу сказаць табе выдатную рэч: Бог — гэта любоў".

Мой свет — свет нянавісці і гвалту. За 14 гадоў я пахаваў у Парыжы 32 маладых, усіх памёрлых гвалтоўнай смерцю: самазабойцаў, забітых паліцыяй ці іншымі хуліганамі. Жыццё у нянавісці і гвалце мае выгляд жыцця па-за Богам. Але я ведаю: у гэтым свеце Бог прысутны больш, чым дзе яшчэ. Бог — гэта любоў і таму ведае, што тыя маладыя перажылі страшныя пакуты, а перадусім — адсутнасць любові.

Штоночы ў малітве я прашу Бога аб тым, каб мець Ягоны погляд, ягоны спосаб бачання іншых. І думаю, што каб мець такі погляд, трэба пазбыцца сябе самога..."

**Паводле часопіса "LIST" (№4, 1995 г.) падрыхтаваў У.П.**

## Рэлігійная хроніка

Біл Клінтан вельмі абураны нядаўняй заявай сакратара Рады Бяспекі Расіі Аляксандра Лебедзя, які заклікаў забараніць у Расіі дзейнасць заходніх сект, у прыватнасці мармонаў. Прэзідэнт Злучаных Штатаў "патрэсены" — як ён сам сказаў — гэтым нападам Лебедзя і паведаміў, што царква мармонаў з'яўляецца буйнейшай у ЗША і налічвае дзесяткі мільёнаў вернікаў. Сваёй занепакоенасцю ён падзяліўся з прэм'ерам Расіі Віктарам Чарнамырдзіным пад час размовы ў Ліёне на спатканні "вялікай сямёркі". Кіраўнік расійскага ўрада запэўніў прэзідэнта ЗША, што Барыс Ельцын застанецца гарантам свабоды сумлення ў Расіі.

* * *

Летувіскі парламент адхіліў падрыхтаваны посткамуністамі праект закона, які б забараніў навучанне рэлігіі ў школах. Канферэнцыя біскупаў Летувы выступіла супраць праекта, падрыхтаванага фракцыяй кіруючай Дэмакратычнай Партыі Працы, заявіўшы, што ён знішчыць шмат добрых вынікаў, дасягнутых за 5 гадоў дзейнасці цяперашняга заканадаўства.

* * *

Дзяржаўнае тэлебачанне Індыі аднаўляе трансляцыю цыкла фільмаў на рэлігійную тэматыку, знятага з эфіру ў 1993 годзе з-за патрабаванняў мусульманскіх рэлігійных дзеячаў. Цыкл праграм "Біблійныя апавяданні" на мове хіндзі мае вялікую папулярнасць сярод тэлегледачоў.

* * *

Галоўную прычыну расколу праваслаўя на Украіне біскуп Мятод з Украінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (УАПЦ) бачыць у асобе патрыярха Філарэта (УПЦ КП). Біскуп Мятод падкрэсліў, што Філарэт падмануў аўтакефалістаў, забраўшы ў іх шмат цэркваў, і заняў супраць іх волі патрыяршую катэдру. Уладыка мае таксама прэтэнзіі да Маскоўскага Патрыярхату. У першы час, калі на Украіне пачыналася рэлігійнае супрацьстаянне, гэты патрыярхат нам нічога не даваў: ні грошай, ні дапамогі, ні літаратуры. "Адно пустаслоўе",— гаворыць біскуп. Найбольшае абурэнне выклікае ў яго рымска-каталіцкі Касцёл, бо грэкакаталікі маюць прынамсі маральнае права знаходзіцца на Украіне. Метады каталікоў, на думку ўладыкі, нічым не розняцца ад тых, якімі яны карысталіся 300-400 гадоў таму, калі хронікі пісаліся "кроўю і слязамі". "Уніяцкая Царква з'яўляецца прыладай у руках польскіх шавіністаў і заходніх фінансавых колаў, якія мараць захапіць багацці Украіны і зрабіць з нас стада звяроў",— кажа Мятод. Апошнім часам аўтакефалісты распачалі перамовы на тэму аб'яднання з УПЦ Маскоўскага Патрыярхату.

* * *

Галава Фінскай Праваслаўнай Царквы арцыбіскуп Іаан забараніў сваім вернікам пілігрымкі ў расійскі кляштар на выспе Валаам. Прычынай гэтага рашэння стаў пераход фінаў на новы стыль (грыгарыянскі каляндар), прыняццё заходняй даты святкавання Вялікадня. Манахі валаамскага кляштару прытрымліваюцца старога стылю. Так, ігумен Андранік (Трубачоў) не дапусціў адпраўлення літургіі інскіх "новастылеўцаў". Гэта выклікала абурэнне маскоўскага Патрыярха Алексія II, які як талінскі мітрапаліт адпраўляў набажэнствы ў эстонскіх парафіях паводле грыгарыянскага календара.

**Паводле інфармацыі КАІ.**

*Да 400-годдзя выдання "Граматыкі славенскай..."*

**Алена ЯСКЕВІЧ,**
*кандыдат філалагічных навук*

# Філосаф мовы і багаслоў

Паводле ідэй аплікатыўна-генератыўных граматык, для старажытнай мовы быў характэрны імянны стан, калі аснову яе яшчэ ва ўсім складаюць імёны, звязаныя больш-менш простай прэдыкатыўнай звязкай паміж сабой. Менавіта ў гэтую пару мова інтэнсіўна шукае сінтаксічныя сувязі, развівае разнастайнасць дзеяслоўна-прэдыкатыўных форм. Так, у старабеларускай мове нават пазнейшага перыяду мы яшчэ застаём багацце дзеяслоўных ладоў, у тым ліку сёння ўжо рэліктавых,— дасягальнага, неазначальнага, суперлатыва, кан'юнктыва, ін'ектыва і інш. ...Межы іх часам размытыя, яны перакрываюць адзін аднаго. Моўная стыхія, як бачым, не да канца ўпарадкаваная...

Пра гэта сведчыць і складаная сістэма дзеяслоўных форм у "Граматыцы" Лаўрэнція Зізанія: 4 образа (лады) — из'явителны, ауказателны *(оучоу, бію)*, повелителны *(оучи, бій)*, жєлателны, молитвенны *(да оучоу, да бію)*, непределны *(оучити, бити)*; 5 залозьвъ (станаў) — дьлателны *(оучоу, ськоу, бьлю)*, страдателны *(оучоуся, ськоуся, бьлюся)*, средній *(здраствоую, стою)* посредственны (й) *(пекоуся, тшоуся, боюся)*, общій*(оучоуся грамматіки, оучоуся отъ дідаскала, поноуждаюся на дьло, поноуждаюся отъ нькоего)*.

Непасрэдна ў падручніку граматыкі Лаўрэнцій Зізаній выкладае вучням асновы паэтычнага майстэрства ("Каноны", "О ироическом, елегіаческом, іамвическом метрь") згодна класічнай антычнай традыцыі, святаайцоўскай экзэгезы ("Толкованіе молитвы котором наоучилъ Господь Ісусъ Христосъ оучениковъ своихъ". 3. Да прідеть Царствіе Твое): *"Тоўтъ о три речи просимо. О першоую, абы евангельская проповьдь побьждала всь еретическіи плевела, и их самомньнныі вымыслы. А о дроугоую, абы ся сила Божая въцарила вь насъ, а злость бы была выкоренена, то есть абы грьхъ не пановалъ в нашемъ тьлъ. А о третюю, абы рихло пришло Царство Его, то есть абы насъ неотдалилъ отъ Царства Своего.*

З багатага на перамены лёсу жыцця вучонага даследнікі вылучаюць віленскі перыяд, калі ў 1596 годзе літаральна праз некалькі месяцаў пасля прыезду ў стольны горад ВКЛ убачылі свет вядомыя яго "Граматыка славенска" і "Азбука", часткай якой і з"яўляецца славуты "Лексіс", гэтая сапраўдная жамчужына старабеларускай і ў цэлым усходнеславянскай лексікаграфіі.

1596 год, калі выйшлі "Азбука", "Лексіс" і "Граматыка", прынёс Лаўрэнцію Зізанію вядомасць, пра яго нават згадвае летапісец Баркулабаўскай хронікі: *"Року 97. Во Великий Пост его милость князь Богдан именем Исакий у месте Баркулабова почал учитися по руску грамоте и по кгрецку. А был бакаларем пан Лаврентий Зизаний, человек навченый, з места Виленского".*

Падзеі Берасцейскай уніі 1596 года спынілі асветніцка-выдавецкую дзейнасць Л.Зізанія, ён пачынае шукаць працу прыватнага характару. І Зізанія, як вядомага педагога, запрашае князь Якім Карэцкі, які "усмотревъши въ Лаврентии Зизании Тустановскимъ на то чоловека годъного...

Лаўрэнцій Зізаній быў членам вядомага асветніцкага асяродка Кіева-Пячэрскай Лаўры на чале з архімандрытам Елісеем Плецянецкім, у гурток таксама ўваходзілі Памва Бярында, Іоў Барэцкі, Тарасій Зёмка. Сучаснікі вельмі паважалі Лаўрэнція Зізанія як таленавітага духоўнага пісьменніка і праніклівага экзэгета, *"благовенна мужа, словеснейша дідаскала, ветію, художнаго же еллиногреческаго языка умение и искуство стяжавша, пресвитера, и святыя православныя веры исповедника и проповедника".*

***Вучымся***

**Вікторыя ЛЯШУК,**
*кандыдат філалагічных навук*

*Практычная стылістыка*

# Удзел і дзейнасць

"У тэатр дзеці ходзяць з радасцю, а яшчэ з большай радасцю ўдзельнічаюць у тэатральнай дзейнасці". У цытаваных радках выкарыстаны стылістычны прыём паўтору — для падкрэслення эмацыйнага стаўлення дзяцей да пэўных жыццёвых рэалій: **з радасцю, з большай радасцю; тэатр, тэатральная** (дзейнасць). Такі стылістычны прыём матываваны аўтарскай задумай вылучыць паўторам зместава значную інфармацыю. А вось слова **дзейнасць** у прыведзеным кантэксце з'яўляецца стылёва і зместава неапраўданым. Яно нясе адзнаку афіцыйнасці, агульнанавуковай тэрміналагічнасці, што заўважаецца ўжо ў тлумачэнні гэтага мнагазначнага слова ТСБМ: 1. Праца, занятак у якой-небудзь галіне. 2. Сукупнасць дзеянняў, мерапрыемстваў якога-небудзь прадпрыемства, установы, арганізацыі. 3. Работа, функцыяніраванне якіх-небудзь органаў, арганізма. // Дзеянне сіл прыроды.

Стылёвая адметнасць праяўляецца ў слоўнай спалучальнасці: **творчая (грамадская, тэатральная) дзейнасць; дзейнасць пісьменніка (асобы, мастака); займацца творчай (тэатральнай) дзейнасцю**. Афіцыйна гучыць, напрыклад, фраза "Творчай дзейнасцю пісьменнік пачаў займацца ў 16 год". Канкрэтызаванае выказванне, без абагульнена-абстрактнага слова **дзейнасць,** гучыць больш нейтральна: "Першы твор аўтар напісаў у 16 гадоў."

Звернем таксама ўвагу на парушаную спалучальнасць і плеаназм (дубліраванне інфармацыі) — **удзельнічаць у дзейнасці**. Граматычная няправільнасць і стылёвая хіба звязаны з механічным аб'яднаннем частак дзвюх розных лексіка-граматычных канструкцый: **займацца (тэатральнай) дзейнасцю і ўдзельнічаць у тэатральным (жыцці).** Мнагазначнае слова **дзейнасць** абазначае пастаянную, прафесійна пазначаную якасць дзеяння, мае значэнне "праца, занятак у якой-небудзь галіне". Больш дакладна адлюстроўвае сутнасць вылучаных, дзіцячых схільнасцей, напрыклад, аднакарэннае слова **дзея**, сінанімічнае лексемам **дзейнасць, справа**. Яно таксама мае значэнне "закончаная частка драматычнага твора, тэатральная пастаноўка". Пазбегнуць стылёвай хібы можна праз канкрэтызацыю — замену слова **дзейнасць** канкрэтным абазначэннем яе віду.

Улічваючы заўвагі, прапануем наступныя варыянты выпраўлення часткі цытаты:

... з большай радасцю ўдзельнічаюць у тэатральных пастаноўках (у спектаклях);

... з большай радасцю выступаюць у тэатральнай дзеі;

... з большай радасцю выступаюць як акторы (акторамі);

... з вялікім задавальненнем самі ўдзельнічаюць (іграюць) у спектаклях;

... яшчэ больш самі любяць быць акторамі (артыстамі).

*З гісторыі красамоўства на Беларусі*

# "На памяць..."

*... І чэрпаць з гукаў роднай мовы*
*Нектар жывога пачуцця.*

**Сяргей Крывец.**

Сёння мы пагаворым пра дакумент, які з'явіўся вынікам сумных падзей, аднак магчыма праз гэта ў ім жыве не толькі гісторыя, але і трапяткое пачуццё. Арганічныя ў сваёй паўсядзённасці і прастаце словы ўвабралі жаль і гора. Запіс XIV стагоддзя перадсмяротнай волі перадаць царкве ўласнасць,— на ўспамін пра сваіх сямейнікаў і сабе,— захоўвае Полацкае харацейнае евангелле XII стагоддзя. У ім на адваротным баку аднаго з лістоў напісаны тры граматы. Артыкул "Кніга — сведка" ("НС",№ 19) быў прысвечаны адной з іх, дарчай полацкага князя Андрэя Альгердавіча Траецкаму манастыру. Ёй папярэднічае духоўніца палачаніна Дземянцеева, строгасць і кампазіцыйная ўпарадкаванасць якой высвечваюць яркасць стылю выказвання. Важнае рашэнне, перададзенае жывой народнай мовай, прасякнута прыхаванай пяшчотай, сведчыць практыцызм і рупнасць асобы; сур'ёзнасць намеру:

*Во имя отца і сына и святого духа.*

*Се азъ, рабъ божии Иван Никоновичъ Деменьтеевъ сынъ, отходя сего сьвта, даль есьмі святои Троици три места ролейная на великомъ поли, да поженька, да лучъ на Полоте да огородъ оу старомъ городе да польгумна отцю своему напамять і собь и дитяти.*

*А хто иметь отнимати от святое Троици или вельможа или попъ иметь продавати, да будеть проклят в сиі векъ і въ будущии.*

Зачын і найменне асобы пададзены праз традыцыйныя выразы рэлігійнага красамоўства, сугучныя моманту напісання граматы, перадаюць адметнасць афіцыйнага стылю царкоўных канцылярый. Захаваны стыль вуснага маўлення палачаніна. Увагу даследнікаў звярнуў факт перадачы зямлі ў памяць бацькі, сябе, дзіцяці: магчыма, усе яны сталі ахвярай нейкага бедства, эпідэміі.

Лексіка і граматыка гэтай кампазіцыйнай часткі сведчыць пра пераемнасць, сувязь старабеларускай і сучаснай беларускай мовы: **ралля *(ролейная)*, пожня *(поженька)* дзіцяці, на полі, у горадзе.**

У традыцыях рэлігійнага красамоўства сфармулявана пакаранне, моц якога акрэслена вялікай часавай адлегласцю. Пры гэтым афіцыйны і вусна-размоўны стыль гарманічна сінтэзаваны ў нацыянальна-самабытную з'яву.

Духоўніцу Івана Ніканавіча цытаваў і прыводзіў фрагмент яе фотакопіі Максім Гарэцкі — у сваім знакамітым выдатным даследаванні "Гісторыя беларускае літаратуры", апублікаваным упершыню ў 1920 г., некалькі разоў перавыданым, узноўленым у 1992 г. у серыі "Спадчына". Цытаваннем духоўніцы пацвярджаецца слушны тэзіс аўтара, змешчаны ў главе "Пісьменства 13-14 вв." з раздзела "Старая літаратура": "Актаў 14-га веку і пазнейшых вякоў захавалася ў розных архівах сотні тысяч. Яны даюць шмат каштоўнага матэрыялу для вывучэння нашага старога жыцця ў яго бытавых з'явах, а таксама й для вывучэння мовы, бо найхутчэй у гэтым відзе пісьменства, сярод шаблонных зваротаў канцылярскае мовы можна знайсці і вельмі рэдкія бытавыя народныя словы ў апісанні актавае справы. Ужо ў самых старых актах пераважае элемент жывой мовы народа...", праз стагоддзі даносячы подых жывога пачуцця — на памяць.

***Ствараем энцыклапедыю "Новай зямлі"***

**Валянціна ВЫХОТА**

# Коласавы зернеткі

(Працяг.)

*І ўсё слабее ў воўка сіла.*
*Ды страшна смерць, усім жыць міла!*
*Ён рэштку сіл ізноў збірае,*
*Мацней на лапы налягае.*

Слоўнік беларускай мовы М.В.Бірылы атаесамляе словы *рэштка* і *рэшта*.

1. **РЭШТА,** 1. Частка чаго-н.,якая засталася, не выкарысталася; астача, астатак (ТСБМ). У нямецкай мове паводле WDG — das Übergebliebene, Übrige.

У раздзеле "Смерць Міхала" паэмы чытаем і такі радок:

*Надзеі гіне рэштка тая.*

І рэштка сіл у ваўка,і рэштка надзеі ў Ганны—усё гэтаастача ад таго,што было спачатку.Ды ўсё ж *рэштка сіл* і *рэштка надзеі* маюць розныя значэнні.Дарэчы, нямецкі слоўнік (WW) таксама падае і значэнне *рэшта*, падобнае *на рэштку надзеі*. Rest, der — das letzte Restchen Mut (umg) verließ sie. У ТСБМ гэтае значэнне слова *рэшта* не згадваецца.

Таго ж кораня і словы *нарэшце* ды *ўрэшце*.

***Нарэшце** маці не ўстрывала: —*
*Таго няма, другога мала;*
*І на Міхася жаль нахлынуў*
*І нейкі смутак навязаўся,*
*А ўрэшце ён усердаваўся.*

**НАРЭШЦЕ** 1. Наконец, в конце концов (БРС).

**УРЭШЦЕ** 1. Наконец, в конце концов (БРС).

У нямецкіх слоўніках няма слова з коранем rest, значэнне якога адпавядала б значэнню слова *нарэшце (урэшце)*, а ўжываюцца іншыя лексемы і словазлучэнні.

Наконец 1. endlich; schließlich; zu guter Letzt; letzen E'ndes (в конце концов) (РНС). в конце концов schließlich (und endlich) (РНС).

endlich II adv наконец, в конце концов (GDRW).

schließlich I adv наконец, в конце концов (GDRW).

Гісторыя слова: газета "Наша слова" №47 (259), 1995 г.

***Матэрыялы да слоўніка "Беларускія імёны"***

**Сымон Барыс**

# Як у нас клічуць

## Жаночыя імёны

*(Працяг.)*

**Сабіна.** Сабіна(лац.) —са старажытнага роду Сабінаў. Вытв. Сабінка, Сабіначка. Імяніны кат. 29.08; 27.10.

**Саламея**. Саломея (ст. яўр.) — жаночае імя да мужчынскага імені Саламон — добра жыць, квітнець. Вытв. Саламейка, Саламэя, Салоха. Імяніны кат. 22.10; 17, 19.11.

**Света. Святлана** Светлана (слав.) — калька грэц. імені Фаціна — светлая. Вытв. Светка, Светачка, Светанька, Святланка, Святланачка, Святлуня; Святуля, Свецік, Святок, Святлушка; Лана. Імяніны пр. 26.02, 02.04.

**Святаслава** (слав.). Святослава.

**Свабода** (слав.). Свобода.

**Светлавіда** (слав.). Светловида.

**Светлавока** (слав.). Светлоока.

**Серафіма. Серафіна. Серафіма (яўр.)** — палымяная. Вытв.: Серафімка, Серафімачка, Серафінка, Серафіначка; Сіма, Сіманька; Фіма, Фімачка, Фіманька. Імяніны пр. 11.08; кат. 08.09.

**Сільва**. Сильвия (лац.) — жаночае імя ад мужчынскага імені Сільвій — лес. Вытв. Сільвачка, Сільвуня. Імяніны кат. 03.11.

**Славаміра**. Славомира (слав.).

**Сняжана** (бел.). Вытв. Сняжанка, Сняжынка, Сняжыначка.

**Соф'я** — тое ж імя, што і Зося. София.

**Станіслава, Стася**. Станислава — жаночае імя ўтворана ад мужчынскага імені Станіслаў (слав.) Вытв. Стася, Стасечка, Стаська, Стасюня, Станіслаўка. Імяніны кат. 08.05, 13.11.

**Сцяфанія. Сцепаніда**. Стефанида (грэц.) — абвянчаная. Разм. Стахванея. Вытв. Сцепанідка, Сцеша, Стэпка, Стэпа, Сцяпаня; Стэфа, Стэфка, Стэфачка. Імяніны пр. 24.11.

**Судзіслава.** Судислава (слав.) Імяніны кат. 07.07.

**Сусана. Сюзана**. Сусанна (ст. яўр.) — вадзяная (белая) лілея. Вытв.Сусанка, Сюзаначка. Імяніны пр. 21.04., 4.05, 19.06; кат. 24.05; 11.08.

**Схаластыка.** Схоластика (лац.) — школьная. Імяніны кат. 10.02.

**Стэла**. Стелла.

***Мікалай Крыўко — беларушчына.***
***Алена Шчука — англійшчына.***

# Слоўнік сінонімаў

**ПОСНІЦА** размоўнае (посная ежа)— *Ён, дачушка, Падляскі, няма і малачка. Посніца цяпер будзе ў нас* (Пальчэўскі), **НІШЧЫМНІЦА** разм. *Дабудаваў яе [сядзібу], недаядаючы і недасыпаючы, бацька Банадыся, бядняк з беднякоў, у якога нішчымніца і на сняданак, і на полудзень, і на вячэру* (Хадкевіч).

**ПОСНЫ** (без мяса і малака, не скаромны) *Вячэра мусіла быць посная, але ж трэба было згатаваць нямала-нямнога: дванаццаць страў* (Мележ), **НІШЧЫМНЫ** *Мы атрымлівалі толькі агульную нормухлеба і два рызы на дзень у сталоўцы нішчымны боршч* (Сяргейчык).

**ПОСТ** (устрыманне ад скаромнай ежы, згодна з царкоўным законам)*[Гарасім:] — А вы што, пане Сташэвіч, пастоў не прызнаеце? — Не, не прызнаю, пане Жукоўскі* (Чарнышэвіч), **ПОСНІЦТВА** Разм. *Сваё вялікае посніцтва ён [Мікола] выявіў у тым, што ў сераду і ў пятніцу смактаў малако маці толькі адзін раз, і то ўвечары, пасля таго, як бацькі памоляцца* (Скварцоў-Сцяпанаў), **ГАВЕННЕ**.

**Пост**. Англійскіх адпаведнікаў тут два: fast, fastening. Як і бел. **пост**, **посніцтва**, яны аднакарэнныя словы.

**ПОСТАЦЬ** (чалавек — звычайна невядомы, незнаёмы ці кепска бачны) *Учасе глыбокага Сцёпкавага разважання па вуліцы прасунуліся дзве чорныя постаці* (Колас), **ФІГУРА** *Нібы з зямлі выраслі непадалёку тры чалавечыя фігуры* (Чарот).

**Постаць.** У адпаведнасць з бел. **постаць, фігура** ў англійшчыне можна паставіць толькі адзін назоўнік **figure**, які быў пазычаны з французскай мовы.

**ПОСУД** (набор гаспадарчых прадметаў для прыгатавання і падачы ежы, пітва, для захоўвання прыпасаў і пад.) *Дзед быў рамеснікам: ён рабіў медны посуд для навакольных жыхароў і браў папраўляць рэчы* (Бядуля), **ПАСУДА** *Праз адны дзверы неслі страву ў сталоўку, а праз другія выносілі парожнюю пасуду* (Колас), **ПАСУДАК** *[Паўлінка і Адольф] прыбіраюць са стала; пасудак стаўляюць на табурэце каля самавара* (Купала), **ПОСУДЗЬ** разм. *Ток давала дынамамашына, якую генерал заўсёды вазіў з сабой разам з шматлікай кухоннай посуддзю і сталовымі сервізамі* (Шамякін), **НАЧЫННЕ** *Начынне чысціню любіць* (прыказка).

**Посуд**. У якасці адпаведнікаў да бел. **посуд** у англійшчыне можна назваць такія назоўнікі, як **tableware, dishes, crockery, chinaware, earthenware**. У адрозненне ад іншых сінанімічных радоў тут цяжка вылучыць дамінатну, бо хаця ўсе яны аб'яднаныя агульным значэннем "посуд", пры гэтым яны маюць і дадатковы сэнс, які іх розніць. Так, **tableware** — гэта посуд, які ўжываюць у час ежы за сталом, **dishes** — посуд, што быў ужыты за сталом і які трэба вымыць. Тры астатнія назоўнікі паказваюць на матэрыял, з якога зроблены гэты посуд: **chinaware** — посуд з фарфору, **earthenware** — гліняны посуд, **crockery** — фаянсавы або фарфоравы посуд.

**ПОТАРЧ** і **ПОТЫРЧ** (са словамі падаць, ляцець, і пад.: тварам уніз) *Турчыновіч не ўстаяў на нагах і паляцеў потарч* (Гурскі), **ПОТАРЧУ** разм. *Потарчу зляцеў [бацька] з печы і кінуўся да яго [сына]* (Машара), **ПАТЫРЧА** разм. *Сон варкоціка падвёў, Паляцеў ён патырча З аб'імшэлага карча* (Шушкевіч), **СТОРЧ** дыялектнае *Яна [Галіна] ўламалася пад ім [дзедам], і ён паляцеў сторч галавою* (Сабаленка), **СТАРЧАКОМ** разм. *Скакнуў — не трапіў, паслізнуўся І ў яму старчаком лячу!* ("Тарас на Парнасе"), **СТАРЧМА** разм. *Не паспеў я гэта падумаць, як старчма паляцеў кудысьці ўніз* (Хадкевіч), **НІЦМА** *Ён [Аляксей] нібы аглох —адразу залажыла вушы, але тым не менш ён нейкі момант яшчэ стаяў, здранцвелы, і толькі пасля ўпаў ніцма* (Чыгрынаў),**НІЦ** *Раманенка паварушыўся, але, зламаны моцным ударам, бездапаможна ўпаў ніц* (Шыцік). *Вось падаюць людзі ніц пад смяртэльным градам* (Арабей), **НІЦАМ** разм. *Вяль гаворыць: — што хваліцца! Паглядзім,хто у даліне. Устаіць ці ляжа ніцам* (Танк), **НІЧКОМ** разм. *Не стой, разведчык, на даліне, На землю кідайся нічком!* (Колас).

# Слова жальбы

## Памёр Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч

7 ліпеня ў Менску памёр старэйшы сын Якуба Коласа Даніла Канстанцінавіч Міцкевіч. Прафесіянальны хімік, ён ахвяраваў жыццё служэнню Бацькаўшчыне і беларускай культуры. Быў узнагароджаны ганаровымі граматамі і медалямі, з якіх найдаражэйшым яму стаў медаль Францыска Скарыны. Найбольшая заслуга Данілы Міцкевіча — у стварэнні музея Якуба Коласа ў сталіцы і яго філіялаў у Мікалаеўшчыне, Альбуці, Акінчыцах; у падрыхтоўцы дванаццаці- і чатырнаццацітомных Збораў твораў Якуба Коласа,дзе ён выступаў як галоўны кансультант і каментатар бацькавых твораў,а таксама яго эпісталярнай спадчыны; у выданні навукова-папулярнай літаратуры, прысвечанай народнаму паэту (зборнікі, альбомы і інш.); у прапагандзе ягонай спадчыны ў сродках масавай інфармацыі. Сціплы і далікатны ў міжасобасных кантактах, Даніла Канстанцінавіч быў надзвычай актыўным у жыцці грамадскім: удзельнічаў у навуковых канферэнцыях і пасяджэннях "круглых сталоў", з'ездах і сустрэчах беларусаў свету, імпрэзах і вечарынах, прысвечаных розным святам і ўгодкам, якія зазвычай адзначаліся ў Доме літаратара. Я ўжо не кажу, што Даніла Канстанцінавіч часта сустракаўся з наведвальнікамі музея,які ўзначальваў,са студэнтамі і працоўнымі калектывамі горада, каб падзяліцца з людзьмі ўспамінамі пра народнага паэта. Прыемна было чуць ягоную сакавітую беларускую мову, па-народнаму мудрыя выказванні.

Праводзілі Данілу Канстанцінавіча ў апошні шлях з будынка музея — з таго самага дома, які, перш чым стаць музеем, прытуліў у пасляваенны час сям'ю Якуба Коласа і быў памерламу знаёмы і родны, як кажуць, да апошняй падваліны.Пахаванне Коласавага сына не стала афіцыйнай падзеяй. Ад урадавых колаў прысутнічаў усяго адзін чалавек — наменнік міністра культуры Ю.Цвяткоў.Затое — і гэта прыемна адзначыць — на ім прысутнічала шматлікая беларуская інтэлігенцыя — з Саюза пісьменнікаў, з музеяў,з выдавецтваў і рэдакцый,з тэатраў і навуковых устаноў.Дэлегацыю землякоў з радзімы класіка беларускай літаратуры ўзначальваў наменнік старшыні Стаўбцоўскага гарвыканкама М.Багатка. Развітацца з Данілам Канстанцінавічам прыйшлі народныя пісьменнікі Янка Брыль, Васіль Быкаў, Іван Шамякін, акадэмік Радзім Гарэцкі,паэты Генадзь Бураўкін,Анатоль Вярцінскі,Пятро Прыходзька,навукоўцы Міхась Мушынскі, Віктар Каваленка, Адам Мальдзіс, Іван Чыгрын, Вячаслаў Рагойша і іншыя вядомыя дзеячы беларускай культуры. Шмат было і сваякоў ад каранёў коліськвялікай разгалінаванай патрыярхальнай сям'і Міцкевічаў-Лёсікаў.

Дык пакланімся ж усе разам памяці светлага чалавека, асілка беларускага духу, годнага сына вялікага бацькі, які так хораша сцвердзіў сябе на ніве роднай культуры.

**рына КРЭНЬ.**

Фальклорны гурт "Лугава" з вёскі Старая Лугава Лоеўскага раёна створаны ў 1987 годзе. Сёння ў ягоным рэпертуары каля ста аўтэнтычных песень, сабраных на Лоеўшчыне,якія выконваюцца з захаваннем мясцовых асаблівасцяў.Гурт ездзіў з канцэртамі ва ўсе суседнія раёны, удзельнічаў у першым фальклорным фестывалі Беларусі, што праводзіўся ў Пінску.

**Фота С.Халадзіліна, БелТА.**



*Да 200-годдзя Яна Чачота*

# Помнік Яну з Мышы на радзіме

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

пра варыянты яго сённяшняй будовы, пра тое, наколькі адпавядаюць яны нашым мэтам" Ян Антоні Тадэвушавіч Чачот (такое яго поўнае прозвішча. — **М. М.**) гаварыў: " Шчасце — гэта найвышэйшая мэта ўсіх імкненняў чалавека; шчасце — ва ўнутранай задаволенасці ад сваёй працы, учынкаў і побыту; асабістае шчасце — у шчасці грамадскім; дбаць пра грамадскае дабро — значыць памнажаць і дабро ўласнае".

Урачыстасці пачаў загадчык раённага аддзела культуры Іван Абрамовіч. Шчырыя і ўзнёслыя словы пра паэта, фалькларыста і драматурга Яна Чачота выказаў старшыня Баранавіцкага райвыканкама Валерый Раінчык. Ён жа адзначыў добры ўклад у справу развіцця культуры раёна, яе здабыткі, а таксама ў прапаганду твораў і спадчыны Яна Чачота І.Абрамовіча, В.Дубейкі і асабліва М.Берната.



Выстаўка кніг.**Здымак М.Кашко**



Адзін з нумароў літаратурна-музычнай кампазіцыі. **Здымак М.Кашко**

Менавіта памкненнямі, руплівасцю і працай апошняга паўстаў над Мышанкай помнік Яну з Мышы.

Услед слова было дадзена шчырай патрыётцы Бацькаўшчыны, суродзічцы класіка беларускай літаратуры Алеся Гаруна (яго бацькі родам з баранавіцкага Падстарыння. — **М.М.**), таленавітай паэтцы-аматарцы Браніславе Лапкоўскай-Прушынскай, якая прысвяціла свой верш Яну Чачоту.

Дырэктар мясцовай школы і краязнаўца Васіль Дубейка падзяліўся сваімі здабыткамі ў пошуках дакументаў пра жыццё і дзейнасць Яна Чачота, ён жа і ўстанавіў паводле архіўных звестак у Вільні дакладныя гады жыцця будучага паэта на Баранавіцкай зямлі.

Аўтар гэтых радкоў адзначыў годных людзей Беларусі, якіх менавіта дала Баранавіччына, пачынаючы ад першага друкаванага паэта і аўтара ўсходнеславянскага календара Андрэя Рымшы (Пеньчын) і першага так званага міністра адукацыі ў свеце Яўхіма Храптовіча (Ясенец).

Помнік паэту Яну Чачоту адкрыў старшыня Баранавіцкага райвыканкама Валерый Раінчык.

А потым сіламі гарадскіх і раённых дзеячаў культуры і працаўнікоў культуры была паказана літаратурна-музычная кампазіцыя, прысвечаная Яну Чачоту. Уквеціла гэтае свята і выстава твораў Яна Чачота і кніг пра яго, наладжаная супрацоўнікамі раённай бібліятэкі. Свята па ўшанаванні Яна Чачота па-сапраўднаму стала каштоўным культурным здабыткам і Новай Мышы, і раёна, і гасцей.

Ад'язджаючы з Новай Мышы, многія ўдзельнікі свята ўспаміналі словы Яна Чачота:

"Грамадскае шчасце залежыць як ад добрых грамадзян, так і ад добрага ўрада".

"Не могуць быць добрымі грамадзяне там, дзе кепскі ўрад, і не можа быць кепскага ўрада там, дзе большасць — добрыя грамадзяне".

"Найлепшы ўрад будзе там, дзе ўсё робіцца згодна з пажаданнем народа, а не з волі, капрызу і сілы аднаго".

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член Геаграфічнага таварыства.**
г. Баранавічы.

# Даты і падзеі ў ліпені

26 — 400 гадоў таму кароль Рэчы Паспалітай пацвердзіў аршанскім мяшчанам іх даўнія правы і прывілеі.
— 40 гадоў таму Егіпет абвясціў пра нацыяналізацыю Суэцкага канала.
27 — Дзень абвяшчэння дэкларацыі пра дзяржаўны суверэнітэт Беларусі.
— 275 гадоў таму манахі Глыбоцкага кляштара кармелітаў босых напалі на маёнткі Чарніцы і Чарніцк кушліцкага старасты Даніլы Шпакоўскага,ланішчылі збажыну, сенажаці ды пазбівалі ягоных сялянаў.
— 100 гадоў з дня нараджэння Язэпа Горыда, мастака-графіка, славутага сваімі малюнкамі ў заходнебеларускім сатырычным часопісе "Маланка".
— 85 гадоў з дня нараджэння мовазнаўцы Юзэфы Мацкевіч.
— 75 гадоў таму было атрымана новае лекавае рэчыва,якое пазней назвалі інсулінам.
28 — 85 гадоў таму ў рэдакцыю газеты "Наша Ніва" былі перададзеныя звесткі пра Паўлюка Багрыма, якія калісь надрукаваў навагарадскі адвакат Яцкоўскі,і верш "Зайграй, зайграй, хлопча малы".
31 — 245 гадоў таму завершана будаўніцтва каралеўскага палаца ў Гародні.
**У ліпені:**
— 345 гадоў таму войска гетмана Януша Радзівіла разграміла каля Лоева 15-тысячнае казацкае войска палкоўніка М.Нябабы.
— 165 гадоў таму паўстанцкія атрады Віленскага цэнтральнага паўстанцкага камітэта перайшлі прускую мяжу і былі інтэрнаваныя прускімі ўладамі.
— 140 гадоў таму Адам Ганоры Кіркор,славуты наш журналіст, выдавец, гісторык, ездзіў па Віленшчыне і даследваў курганы дзеля паглыблення сваёй веды па гісторыі гэтага краю.
— 130 гадоў таму беларусы і палякі — сасланыя ўдзельнікі паўстання 1863 года, што працавалі ў цяжкіх умовах на будаўніцтве дарогі вакол паўднёвага берага Байкала, узнялі паўстанне. Спачатку ім удалося абяззброіць варту і ахову, але ў бітве з рэгулярным войскам яны былі разбітыя. Удзельнікаў жорстка пакаралі,а чатырох кіраўнікоў расстралялі.
— 55 гадоў таму выйшаў першы нумар беларускага сатырычнага і гумарыстычнага часопіса "Вожык" (напачатку выдаваўся як агітплакат пад назвай "Раздавім фашысцкую гадзіну").

**Падрыхтаваў З.С.**

## Пачутае "У Лявона"

### Поспех

Бывальцы шынка хваляцца сваімі поспехамі. Хто зарабіў за дзень мільён, а хто выйграў у латарэі машыну... Але ўсе пагаджаюцца, што першынство належыць сябру, які сказаў:
— Найбольшым сваім поспехам лічу выпадак у краме, калі мне ўдалося пераканаць жонку, што ў новым футры яна выглядае непрывабна.

### Альтэрнатыва

Пасля няўдачы з першай кніжкай малады празаік нядоўга мучыўся: пісаць ці не пісаць. Выручыла жонка:
— Гандляваць!

### Тактоўнасць

Аднаго госця шынка заўсёды ахвотна запрашаюць у кампанію. Калі сябры пацікавіліся, чаму, то пачулі, што ён — вельмі тактоўны чалавек: ягонае меркаванне пра людзей супадае з тым, што яны самі пра сябе думаюць.

### Непатрэбная абвестка

— О, якая непатрэбная абвестка,— сказала Лёля, убачыўшы ў газеце, што чытаў сусед, такую рэкламу: "Всё для сварки".— Я штодня іх наладжваю без тэхнічных сродкаў.

### Дзве грамады

— Як я пагляджу,то ў вашым шынку,— кажа Лёлін прыяцель,— збіраюцца вельмі розныя людзі.
— Ды не,— супярэчыць яму Лёля,— тут толькі дзве грамады: адна — тыя, каго я ведаю, другая — тыя, што мяне не знаюць.

### Нагода

— Чаму ты сёння так шмат п'еш?
— Хачу напіцца!
— Непрыемнасці на працы?
— Абуў новыя туфлі.

## Пародыі

*Георгій Юрчанка*

### На сусветны ўзровень

*Я, нібы маэстра Паганіні,*
*Заіграю на адной струне.*
**Навум Гальпяровіч.**

Чую, як штоміг мацнее голас,
І сябе на подумцы лаўлю:
Блізка час,калі,як дзядзька Колас,
Адштукую "Новую зямлю".

А як голаў шуманам ахіне
Ды як бах затахкае ў віскі,
То рука міжвольна паганіні
Суне ў вершаваныя радкі.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.
АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1.
Тэлефон: 233-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Вольга Кузьміч, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Уладзімір Панада, Зміцер Санько, Здзіслаў Сіцька — адказны сакратар, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Індэкс 63865. Замова 807

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220041, г.Менск, пр. Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 2625 паасобнікаў
Падпісана ў друк 24.07.1996 г. у 15 гадзін.